PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (2266) Год XLIV Беласток 17 кастрычніка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Разлічваем на гаспадарчае ажыўленне

**Размова з бурмістрам горада Гайнаўкі Анатолем АХРЫЦЮКОМ.**

***— У сваім першым выступленні перад Радай указалі Вы на адмоўныя з'явы ў жыцці горада: вялікае беспрацоўе, слабую гаспадарчую кандыцыю гайнаўскіх прадпрыемстваў і міграцыю маладых людзей у вялікія гарады. Ужо амаль год кіруеце горадам. Ці адбываюцца нейкія станоўчыя зрухі ў гаспадарчым развіцці Гайнаўкі?***

— Паслядоўная палітыка спынення вытоку грошай з горада дае ўжо станоўчыя рэзультаты. Арганізавалі мы многа сустрэч з прадстаўнікамі гаспадарчых устаноў, прадпрыемстваў, прапанавалі ім шукаць гаспадарчых партнёраў, выканаўцаў інвестыцыяў і рынкаў збыту тавараў і паслуг перад усім у сябе. Дзякуючы гэтым намаганням актывізаваліся нашы прадпрыемствы, якія праектуюць і выконваюць каналізацыю, будуюць дарогі. Добрым прыкладам можа быць Прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі, якое яшчэ год таму мела нямнога заказаў, а сёння яно — вялікі выканаўца. Хаця гэта не адзіны прыклад, аднак нельга яшчэ гаварыць пра поспехі, калі станем разглядаць гаспадарчую кандыцыю вялікіх гайнаўскіх прадпрыемстваў, якіх развіццё залежыць ад рынкаў збыту іх прадуктаў. Наша краіна адчувае яшчэ паслядоўнасці гаспадарчага крызісу, а суадносіны з нашымі ўсходнімі суседзямі абмежаваныя, што не спрыяе хуткаму гаспадарчаму ажыўленню Гайнаўкі.

***— У чэрвені г.г. Радзе горада прадстаўлены былі асновы стратэгіі развіцця Гайнаўкі. На што робіце стаўку, плануючы развіццё горада?***

— Ужо зараз распрацоўваюцца планы змяненняў у дрэваапрацоўчай прамысловасці. Гэтыя прадпрыемствы павінны мяняць свой воблік і як найменш залежыць ад сыравіны з лесу — драўніны. Апрацоўваем таксама стратэгію развіцця прыродазнаўчага і экалагічнага турызму, які павінен стаць важным фактарам развіцця рэгіёна. У стратэгіі будуць акрэслены нашы інвестыцыйныя магчымасці і шанцы знайсці інвестараў звонку з мэтай стварыць базу для будучых турыстаў. Апрацаванні тычацца таксама магчымасцей газіфікацыі рэгіёна Белавежскай пушчы і добраўпарадкавання камунальных адходаў.

***— Нядаўна Вы выказваліся супраць пашырэння парку на ўсю Белавежскую пушчу ад пачатку 2000 года. Аднак плануеце, што горад будзе адыходзіць ад прамысловасці ў карысць турызму і аховы асяроддзя. Ці ўсё ж такі лічыце, што пашырэнне парку непазбежнае і горад у будучым можа падтрымаць такую ідэю?***

[працяг ☞ 3]



*Чыстая вада, шматлікія астраўкі, лагодны бераг Піны.*

# Восень на Палессі

Яўген МІРАНОВІЧ

Ёсць месцы на зямлі, якія сваім краявідам неяк асабліва ўражваюць. Такой краінай несумненна з'яўляецца беларускае Палессе. Яно мае сваю душу, якая па нейкіх прычынах не дазваляе ставіцца абыякава да тамашніх гарадоў, вёсак, прыроды, людзей. Можа таму, што там найбольш адчуваецца натуральнасць і прысутнасць астаткаў таго свету, пра які ўспаміналі нашы бацькі і дзяды.

З Брэста ў Пінск найпрасцей даехаць чыгункай. Адлегласць паміж гэтымі гарадамі параўнальна такая ж як з Беластока ў Варшаву. Праезд дарогі даўжынёю 180 кіламетраў атрымліваецца амаль дармовым. Пералічваючы на залатоўкі білет у Пінск каштуе 70 грошаў. У Польшчы яго цана была б у 60 разоў вышэйшая. Але логіку беларускай эканомікі розумам ахапіць немагчыма. Цягнік з Брэста рушыў вельмі дакладна, згодна з рэгламентам і паводле ўсіх прынцыпаў чыгуначнага руху, існуючых у Савецкім Саюзе. У цесна запоўненых пасажырамі вагонах было невыносна душна. Шмат людзей патрачаную з арганізма ваду папаўняла жыгулёўскім півам, дарэчы, нават цалкам добрым. Найбольш дзіўнае, што ў натоўпе не адчувалася ніякай агрэсіі. У нашай краіне ў такой сітуацыі маладыя людзі так часта кідаюць матам, што складваецца ўражанне, быццам у польскай мове найважнейшыя словы пачынаюцца літарай „к".

Перад ад'ездам, па радыёвузле паведамілі пасажырам, што ў вагонах нельга курыць, піць гарэлку, выкідаць смецце, а падчас руху — адкрываць дзверы і выходзіць з цягніка. Камюніке такога зместу паўтарылі некалькі разоў падчас звыш шасцігадзіннага падарожжа. Палова пасажыраў вярталася з Тарэспаля, ці можа яшчэ далей адкульсьці з Польшчы. Тое, што зарабляюць недзе там працуючы хапае, як расказвалі, каб пражыць паўмесяца, на другую палову трэба выпрацаваць хаця б гандлюючы на польскіх базарах. Але цяжка ў гэтых людзях дашукацца было нейкага пачуцця роспачы, наадварот, наогул ганарацца яны тым, што могуць зарабляць грошы, дзякуючы сваёй прадпрымальнасці. Гэта яшчэ раз даказвае, што калі б стварыць гэтаму народу спрыяльныя ўмовы для свабоднай гаспадарчай дзейнасці, стане ён адным з багацейшых у Еўропе.

Сталіца Палесся Пінск, а асабліва частка горада над ракой Пінай, магла б стаць раем для турыстаў. Чыстая вада, шматлікія астраўкі і паўастраўкі, лагодны бераг Піны, набярэжныя паркі ствараюць знакамітыя натуральныя ўмовы для адпачынку. Недалёка ад горада Піна сустракаецца з Прыпяццю. Абедзве рэчкі настолькі глыбокія, што свабодна плаваюць па іх вялікія судны. У савецкі час з Пінска да Мазыра пастаянна плавалі судны, у Пінску была база палескай флатыліі, а яе матросаў яшчэ сёння з вялікім сентыментам успамінаюць мясцовыя дамы.

У былым езуіцкім кляштары знаходзіцца цяпер музей Піншчыны. Даволі рэпрэзентатыўна прадстаўляе ён мінулае гэтай зямлі. Ёсць там усё, што звязанае з сялянскай, шляхецкай, магнацкай матэрыяльнай і духоўнай культурай. Большасць экспанатаў звязаных з жыццём палескай вёскі амаль такая самая, як прылады, якімі раней карысталіся беларусы Беласточчыны. Шкада толькі, што ў нас ніколі не ўзнікне такі музей. Лёгка тады было б зарыентавацца ў культурнай блізкасці гэтых земляў.

Добра было б, каб стваральнікі гайнаўскага музея замест Мінска наведалі

[працяг ☞ 4]

## Высяленне пад адкрытае неба

У Бельску-Падляшскім сацыяльных кватэр няма і высяленне неплацежаздольных кватарантаў з непаўналетнімі дзецьмі становіцца амаль невырашальнай справай. У 1998 г. у самім Бельску праведзена было 17 высяленняў з кааператыўных і заводскіх кватэр. Сёлета павінны адбыцца 23 высяленні, у тым ліку 5 сем'яў з малымі дзецьмі.

[сацыяльная неабароненасць ☞ 3]

## Скандал вакол „Часопіса"

Калі б улады Міністэрства культуры і мастацтва станоўча адгукнуліся на патрабаванні пасла Юргеля спыніць „Часопісу" датацыю, трэба гэта было б успрымаць як сігнал змены нацыянальнай палітыкі дзяржавы. Неўзабаве кожнаму меншаснаму часопісу можна было б даказаць нейкую палітычную злачыннасць.

[палітычная прадузятасць ☞ 4]

## Роўныя і раўнейшыя

Ян Зенюк запрапанаваў, каб праваслаўная хрысціянская культура і культура беларусаў былі ўключаны ў план Podlaskiej Fundacji Kształcenia Ustawicznego. Ён заклікаў таксама ўнесці ў Статут фонду ў якасці членаў-заснавальнікаў Беластоцка-Гданьскую праваслаўную епархію і Праваслаўнае брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія. Аднак, безвынікова.

[рэлігійная нецярпімасць ☞ 8]

## Гімназія без свайго будынка

Будова новага будынка ў Дубінах распачалася ў чэрвені г.г. Калі будзе дастатковая колькасць грошай, то будова закончыцца да верасня наступнага года. Дадатковыя складанасці ў асвеце Гайнаўскай гміны нясе рэформа, паколькі гімназія не атрымала з Міністэрства адукацыі ні *гімбуса*, ні грошай на спартыўную залу ці сталовую.

[складанае рэфармаванне ☞ 9]

## Замест блёка — сметнік

Маладыя людзі цешыліся, але ніхто з іх не спадзяваўся, што не прыйдзецца ім спраўляць наваселля і што на дадатак страцяць уплачаныя грошы. Час няўмольна ішоў, а будова, засеўшы ў катлаване, не магла выйсці на паверхню. Калі прайшлі ўсе тэрміны і стала ясным, што блёка ў Орлі не будзе, разжаленая жанчына пачала высвятляць справу.

[нязбыўныя мары ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Рынак для расійскіх тавараў

Беларуская дзяржаўная прапаганда ўвесь час сцвярджае, што эканамічны саюз з Расіяй прыносіць беларусам шмат карысці. Магчыма з высаты міністэрскіх пасад гэта так і выглядае, але звычайны грамадзянін Беларусі наўрад ці мог адчуць нейкую выгоду ад дзейнасці беларуска-расійскіх інтэгратараў для сябе асабіста. Танная расійская нафта на Беларусь не пацякла, больш таго, недахоп нават дарагога паліва стала звычайнай з'явай. Уведзеныя аднолькавыя з расійскімі мытныя пошліны наносяць шкоду беларускім прадпрымальнікам. Гандаль патрыманымі аўтамабілямі з Захаду, які даваў заробак значнай колькасці беларускіх грамадзян, стаў невыгодным. Зараз тысячы „аўтамабільных" долараў асядаюць у літоўскіх кішэнях. Расійцы, якія як і раней аддаюць перавагу замежным машынам і не хочуць купляць „Волгі" і „Жыгулі", едуць на аўтарынкі ў Літву.

Увядзенне пошлін на рыбу закрыла раней квітнеючы „сялёдачны" беларуска-польскі бізнес. Але ад гэтага кошт рыбы ў беларускіх крамах не знізіўся. У выніку мытнага саюза якаснае вінаграднае віно стала недаступным для большасці беларусаў. Паступова з рынку пачалі знікаць заходнія тавары, на іх месцы з'явіліся расійскія, у першую чаргу, вытворчасці сумесных расійска-замежных прадпрыемстваў.

Залежнасць ад эканомікі ўсходняга суседа прывяла да таго, што пасля мінулагодняга грашовага крызісу ў Маскве пакупная здольнасць беларусаў значна знізілася. Прадпрымальнікі, якія раней ездзілі па тавар у Польшчу, зараз едуць у Маскву.

Звычайнаму пакупніку па вялікаму рахунку ўсё роўна ці з Варшавы, ці з Масквы прывезены турэцкія курткі і джынсы, якія ён набывае на беларускіх базарах, але горш за ўсё, што назіраецца выцясненне з рынку тавараў вытворчасці айчынных прадпрыемстваў аналагічнымі расійскімі. Беларускія базары і крамы завалены пасцельнай бялізнай зробленай у Іванаве. Яна менш якасная, але таннейшая за беларускую. У гродзенскіх рэстаранах наведвальнікам прапануюць расійскую мінеральную ваду ці яблычны сок, якія ў сваю чаргу даражэйшыя за беларускія.

Нядаўна дайшло да зусім абсурднай сітуацыі. У гродзенскіх крамах з'явіліся кілбасы, сасіскі і сардэлькі зробленыя ў Расіі. Зыходзячы з таго, што гэтыя прадукты ўтрымліваюць у сабе значны працэнт соі, пакупнікі папярэджваюцца пра немагчымасць смажыць расійскія кілбасы. А калісьці Гарадзеншчына лічылася мясным краем. Мясцовыя мясакамбінаты не толькі рэалізоўвалі свае вырабы ў Беларусі, але і добра зараблялі на экспарце ў Расію.

**Зміцер Кісель**

## Шукалі бомбу — знайшлі камп'ютэры

Сход бацькоў, чые дзеці загінулі 30 мая ў падземным пераходзе станцыі метро „Няміга" ў Мінску, быў спынены міліцыяй.

Супрацоўнікі праваабарончага цэнтра „Вясна-96", які з'яўляецца рабочым органам грамадскай камісіі па расследаванню прычынаў трагедыі ля станцыі „Няміга", вечарам 4 кастрычніка праводзілі ў сваім офісе сустрэчу з бацькамі загінуўшых. Нечакана ў памяшканне ўварваліся 10 міліцыянераў. Імі кіраваў маёр Анатоль Прузан.

— Вы, что тут листовки печатаете? — запыталіся „ахоўнікі парадку" ў разгубленых людзей.

Затым ва ўсіх былі праверены дакументы і ўзяты тлумачэнні, з якой нагоды яны прыйшлі ў офіс „Вясна-96". У кіраўніка праваабарончага цэнтра пацікавіліся, ці памяшканне здымаецца на законных падставах. Свой няпрошаны візіт міліцыянеры патлумачылі тым, што быццам бы ад жыхароў дома, дзе знаходзіцца „Вясна-96", паступіла паведамленне пра прысутнасць у памяшканні вялікай колькасці людзей і бомбы (!). Аднак „сапёры" ў міліцэйскай форме шукалі зусім не выбуховае прыстасаванне. Яны канфіскавалі два камп'ютэры, прынтэры, ксеракс і газету праваабарончага цэнтра „Права маю".

— Такія паводзіны міліцыі для мяне не з'яўляюцца нечаканасцю, — сказаў карэспандэнту „Нівы" Алесь Бяляцкі. — Я з'яўляюся адным з арганізатараў акцыі „Марш свабоды", планаванай на 17 кастрычніка. Сустрэчу з бацькамі ўлады прынялі за сход палітычных лідэраў. У дадатак у нашым памяшканні адбываліся пасяджэнні трох экспертных груп па падрыхтоўцы перамоваў апазіцыі і ўлад. У камп'ютэрах захоўваліся ўсе праектныя дакументы па перамовах. Там жа была база даных па палітычных рэпрасаваных у Беларусі. Відаць, уладам захацелася даведацца, што плануе і якімі фактамі валодае апазіцыя. Частка канфіскаванай тэхнікі дадзена нам у арэнду амбасадай ЗША на Беларусі і з'яўляецца амерыканскай маёмасцю. Прадстаўнікі амбасады ужо звярнуліся ў наша Міністэрства замежных спраў з патрабаваннем вярнуць тэхніку. МЗС звярнулася да Міністэрства ўнутраных спраў. Там паабяцалі, што хутка камп'ютэры будуць вернуты. У сваю чаргу 7 кастрычніка мы звярнуліся ў пракуратуру з патрабаваннем прыцягнуць да адказнасці міліцыянераў, якія ўварваліся ў наша памяшканне.

**Зміцер Кісель**

## Сход беластоцкіх літаратараў

3 кастрычніка г.г. адбыўся справаздачна-выбарчы сход Беластоцкага аддзела Саюза польскіх літаратараў, на якім былі праведзены перавыбары ўлад. Старшынёю аддзела быў выбраны Веслаў Шыманскі — паэт, журналіст Беластоцкага радыё. Яго наменнікам стала паэтка з Саколкі Леанарда Шубзда. Абавязкі сакратара даручаны былі „белавежцу" Віктару Шведу, а скарбніка — Эўгеніюшу Шульборскаму. Членам праўлення з'яўляецца таксама былы старшыня Ян Леанчук.

Новае праўленне распрацуе план працы аддзела, звяртаючы асаблівую ўвагу на выдавецкую дзейнасць, у першую чаргу — членаў Саюза.

**(вл)**

## Узнагарода ў Кракаве

З вялікай прыемнасцю паведамляю чытачам „Нівы", што карціна „Прысніілася мне Хана", якую я зняў разам з журналістам Беластоцкага радыё Юркам Ляшчынскім, атрымала другую ўзнагароду на III Міжнародным тэлевізійным фестывалі этнічных фільмаў і перадач „У сябе" ў Кракаве.

Фестываль праводзіць Польскае тэлебачанне, з дапамогай Еўрапейскай асацыяцыі этнічнага вяшчання, арганізацыяй CIRCOM Regional, якая аб'ядноўвае рэгіянальныя электронныя масмедыя ды ўладамі гарадоў Кракава і Пярэмышля. Сёлета на фестываль паступіла звыш 90 фільмаў з 27 краін. Да конкурсу былі дапушчаны 26 фільмаў з такіх краін, як: ЗША, Галандыя, Вялікабрытанія, Польшча, Чэхія, Венгрыя, Румынія, Боснія і Герцэгавіна, Македонія, Расія, Манголія, Кітай.

Міжнародная камісія пад старшынствам Баляслава Суліка прызнала тры вылучэнні і тры галоўныя ўзнагароды. Вылучаны былі фільмы: венгерскі „Цыганскае заканчэнне школы", брытанскі „Злачынствы няпавісці" і баснійскі „Паўтары сваё імя". Першы расказвае пра венгерскую школу, у якой у 1997 годзе пасведчанні аб заканчэнні школы цыганскім дзецям уручалі асобна, другі — пра бомбы ў каляровых кварталах Лондана, трэці — пра сям'ю, якой бомба забіла двух сыноў, а бацьку адабрала 80% здароўя, у тым і памяць. Сужонства вяртаецца да жыцця — бацька нанава вучыцца свайго імя — рашаюцца нарадзіць новых дзяцей... Страшная гісторыя.

Трэцюю ўзнагароду атрымаў чэшскі фільм „Адзін год" — цёплая, паэтычная карціна пра старых жыхароў Маравіі. Галоўны прыз фестывалю ўзяў Гжэгаж Лінкоўскі за фільм „У зорку Давіда ўпісаны крыж". Гэта гісторыя каталіцкага ксяндза, які даведваецца, што ён — яўрэй, уратаваны дзіцём у час вайны.

Высокую ацэнку гледачоў і журы атрымаў таксама фільм Юркі Каліны „Магіла не на месцы", пра трагедыю беларускіх сялян, забітых атрадам „Бурага", і безвыніковыя пакуль што намаганні іхніх сем'яў ушанаваць памяць загінуўшых помнікам. Узнагароды не атрымаў толькі таму, што быў бы гэта другі фільм аднаго асяродка тэлебачання.

„Прысніілася мне Хана" расказвае універсальную гісторыю пра каханне. У гэтым канкрэтным выпадку было гэта каханне беларуса і яўрэйкі. Поспех фільма гэта перш-наперш заслуга яго герояў: жыхароў Нараўкі і навакольных вёсак, якія ў простых словах сумелі перадаць мінулае, падзеі смешныя і трагічныя, адным словам, усю складанасць жыцця. Дазволю сабе пералічыць іхнія імёны: Кася Бяляўская з Нараўкі і яе дзед Аляксандр Раманчук з Гушчэвіны, Надзея Красоўская, Надзея Скепка і Вера Бароўская з Нараўкі, Уладзімір Клімюк з Плянты, Войтэк Пацэвіч з Нараўкі. Дзякуй Вам. Гэта таксама Ваша ўзнагарода.

**Мікола Ваўранюк**

## Пратэст ТБМ

28 верасня г.г. у 20 гадзін у вёсцы Вашунава Докшыцкага раёна адбыўся напад на гісторыка-этнаграфічны музей „Засцянковая хатка". Пад кіраўніцтвам старшыні калгаса „Чырвоны сцяг" Гірына былі выламаныя дзверы, раскідана і часткова знішчана экспазіцыя музея. Участковы міліцыянт старшы лейтэнант Кучыц і аграном калгаса тапталі выявы Маткі Боскай і папы рымскага. Падчас штурму музея быў зроблены выстрал з табельнай зброі. Старшыня Таварыства беларускай мовы Віленскага краю, дэпутат Віленскага раёна Юры Гіль быў збіты і арыштаваны. Падчас арышту на шыю Юрыя Гіля накідвалася вяроўка, неаднаразова выказваліся пагрозы пазбавіць Юрыя жыцця і спаліць музей. Па словах налётчыкаў, Ю. Гіль і яго музей перашкаджаюць ім спакойна жыць і ён не павінен больш прыязджаць на радзіму. На падставе фіктыўнага пратакола, складзенага участковым, Юры быў асуджаны Докшыцкім судом на 7 сутак. У законным праве на прадстаўленне адваката, выклікание сведак і магчымасці звязацца з літоўскай амбасадай было адмоўлена. Сястра Юрыя, Рамуальда Русалоўская, звярнулася да пракурора Докшыцкага раёна. І толькі дзякуючы дзеянням пракурора былі зняты пабоі, зроблены агляд месца здарэння і дапрошаны сведка Антон Мехавіч. Пасля праведзенага расследвання пракуратура наклала пратэст на рашэнне суда і пасля трох сутак зняволення справа была перагледзена, а Юры Гіль быў выпушчаны на свабоду. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае рашучы пратэст і патрабуе ад дзяржаўных органаў улады правесці расследаванне гэтага здарэння і прыцягнуць да крымінальнай адказнасці старшыню і агранома калгаса „Чырвоны сцяг" ды ўчастковага міліцыянта.

**Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны**

## Дзяржаўны рэкет

Перад мясцовымі ўладамі ў Беларусі Аляксандр Лукашэнка паставіў складаную задачу — забяспечыць на зіму запасы харчавання. Адкуль узяць на гэта сродкі, павінны здагадацца самі кіраўнікі гарадоў і раёнаў. У Ленінскім раёне Гродна вырашылі пайсці старым, добра правераным, рэвалюцыйным шляхам „пазычыць" грошы ў „буржуяў". У якасці апошніх улады відаць уявілі прадпрымальнікаў. Днямі гродзенскія „бізнесмены" атрымалі запрашэнне ад падатковай інспекцыі прыйсці ў райвыканкам для размовы. Там іх азнаёмілі з рашэннем кіраўніцтва раёна, згодна з якім кожны прадпрымальнік павінен даць дзяржаве пазыку ў памеры 150 млн. рублёў (прыкладна 300 долараў), для закупу садавіны і бульбы. Зрабіць гэта неабходна да 10 кастрычніка, а вярнуць пазыку, зразумела, без працэнтаў, абяцалі да красавіка наступнага года. Улічваючы інфляцыю, можна лічыць гэта звычайным рэкетам. Прадпрымальнікі безумоўна абураюцца, але плаціць будуць. Бо разумеюць, пры жаданні падатковая інспекцыя закатуе іх праверкамі і ў выніку забярэ яшчэ больш.

**(зк)**

## „Нашай Свабоды" не ўбачым

Пасля закрыцця газеты „Навіны", прыхільнікі выдання здарма чакалі хуткага з'яўлення яе пераемніцы „Нашай Свабоды". Днямі дзяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь прызнаў несапраўдным пасведчанне аб рэгістрацыі газеты. Такі ж лёс напаткаў яшчэ 8 выданняў. У тым ліку часопіс „Кур'ер", які планаваў выдаваць былы рэдактар „Свабоды" Ігар Германчук.

**(зк)**

# Разлічваем на гаспадарчае ажыўленне


Бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк.

[1 ☞ працяг]

— Мы выказваемся за інтэнсіўную ахову Белавежскай пушчы, але яна не можа стаць прычынай паніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва і абмежавання перспектыў развіцця нашага рэгіёна. Ахова лесу павінна адбывацца з адначасным грамадска-гаспадарчым развіццём нашага рэгіёна. Крыніцы ўтрымання нашага грамадства, звязаныя з гаспадарчым выкарыстаннем Белавежскай пушчы, трэба замясціць новымі месцамі працы. Можна было б развіваць прамысловасць, якая не будзе ў канфлікце з аховай асяроддзя. Аднак для гэтага патрэбны распрацаваныя канцэпцыі, грошы і час. На сённяшні дзень мы ставім на дадатковую ахову пушчы ў рамках Дзяржаўных лясоў, але калі не будзе гэта адбывацца за кошт нашага грамадства.

***— Летам вядомым стала, што ў сувязі з кантрактам для Белавежскай пушчы прыпушчанскім гмінам выдзелены сродкі з дзяржаўнага бюджэту. Гайнаўка атрымала 2,7 мільёна злотых. На што выдаткаваны гэтыя грошы?***

— Сродкі гэтыя перад усім ідуць на інвестыцыі, звязаныя з аховай асяроддзя. Разбудоўваем каналізацыю, перабудоўваем кацельні з вугляных на мазалавыя, стараемся лепш забяспечыць камунальныя адходы і смецце. Аднак да ўсіх грошай, якія атрымліваем з бюджэту, мусім столькі ж далажыць сваіх.

***— Большасць інвестыцый у горадзе звязаная з аховай асяроддзя і паляпшэннем умоў жыцця, а для беспрацоўных і маладых, якія канчаюць школы патрэбны новыя месцы працы. Ці дзяржаўныя грошы можна выдаткоўваць дзеля абмежавання беспрацоўя?***

— Зараз няма магчымасці ствараць месцы працы за бюджэтныя грошы. Новыя месцы работы думаем ствараць, заахвочваючы вонкавых інвестараў адкрываць у нас свае прадпрыемствы. Дзеля гэтага будуем даязныя дарогі да прызначаных для інвестыцый участкаў, даводзім да іх каналізацыю, водаправоды, электрычнасць. Хочам разам з іншымі гмінамі, аб'яднанымі ў Саюзе гмін Белавежскай пушчы, выступіць да ўладаў краіны з ініцыятывай стварыць спецыяльную эканамічную зону з льготамі для інвестараў. Мы і самі згодны даваць льготы ў гарадскіх падатках. Хутка пачне працаваць суд, а, мабыць, і казначэйская ўстанова. Заўважальны зрух бачым у будаўніцтве, мяняецца і архітэктурны выгляд горада, а ўсё гэта дае магчымасць працы нашым людзям.

***— Горад жыве не адной гаспадаркай, але і культурай. У горадзе пражывае многа беларусаў. У час якіх мерапрыемстваў, арганізаваных самаўрадам, адводзілася месца для прэзентацыі дасягненняў беларускай культуры?***

— У горадзе арганізаваны былі летам беларускія фэсты, нашы жыхары былі зацікаўлены Фестывалем царкоўнай музыкі. Мы рады ад кантактаў з Беларуссю. Наш горад наведваюць беларускія музычныя і танцавальныя калектывы, арганізуем сустрэчы з беларускай моладдзю. Перад гарадской публікай выступаюць таксама беларускія калектывы з Гайнаўскага дома культуры і нашых школ. Часта паказваюцца беларускія калектывы з белліцэя і трэба заўважыць іх высокі музычны ўзровень. Сярод устаноў культуры дзейнічае ў нашым горадзе Беларускі музей і там таксама арганізуюцца беларускія мерапрыемствы.

***— Беларускі музей увесь час яшчэ будуецца. Ці прадбачваеце нейкая дапамога гарадскіх улад у завяршэнні будовы і яго абсталявання.***

— Думаю, што спачатку ў самім Музеі трэба было б упарадкаваць арганізацыйныя справы і зацвердзіць канкрэтную праграму стварэння музея і музейнай дзейнасці, бо пакуль што будуецца толькі аб'ект, у якім мае быць музей. Гэта неабходная ўмова, каб гаварыць з гарадскімі ўладамі аб дапамозе.

***— Дзякую за размову***

**Гутарыў Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Сустрэчы моладзі ў Гайнаўцы


Госці з Расны ў час семінара ў белліцэі.

Ад 24 па 26 верасня г.г. у Гайнаўцы пабывала моладзь са Свіслацкага і Камянецкага раёнаў Беларусі. Прыехалі з імі прадстаўнікі раённых улад, каб наладзіць гаспадарчыя і гандлёвыя зносіны. „Прыгранічная сустрэча моладзі" — такі лозунг, загадзя павешаны ў Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая, інфармаваў пра спатканне. Мерапрыемства гэтае арганізавана было ўжо трэці раз. Апрача суседзяў з Беларусі два гады таму Гайнаўку наведалі маладыя людзі з Нямеччыны, а ў мінулым годзе — са Швецыі. Сёлета спатканне адбылося паміж моладдзю прыпушчанскіх раёнаў, што жывуць па абодвух баках мяжы. Госці з Камянца заяўлялі, што наўпрост праз Белавежскую пушчу ў Гайнаўку ад іх 25 кіламетраў. Арганізатары сустрэч — Управа горада, Гайнаўскі дом культуры, сярэднія і падставовыя школы — запланавалі многа экскурсій і сцэнічных выступленняў у ГДК і Комплексе прафесійных школ. Спачатку паказвалася гайнаўская моладзь, выступаў духавы аркестр, вакальны калектыў „Знічка" і рок-гурты „Гоман" і „Блакітны насарог" з белліцэя, спявалі вучні падставовых школ, танцавалі дзеці з Падставовай школы н-р 1, моладзь, якая вучыцца танцам у ГДК і госці з беластоцкага асяродка танца „Рытм". Ад імя гасцей танцавалі дзеці і моладзь з сельскага клуба „Непасады", прызёра рэспубліканскіх конкурсаў, які дзейнічае ў вёсцы Расна каля Камянца, выступала моладзь з вядомага ў Беларусі народнага калектыву народных інструментаў са Свіслачы і салісты з Дзмітравіч. Асабліва падабаліся гайнаўскай публіцы танцоры з Расны.

Арганізатары звазілі гасцей у Белавежскую пушчу, паказалі запаведнік зуброў, правезлі вузкакалейкай у Тапіла, дзе наладзілі вогнішча, паказалі сабор Святой Тройцы, Беларускі музей і запрасілі ў белліцэй на семінар „Моладзь у Еўропе, якая яднаецца". Пра гісторыю ўзнікнення Еўрапейскага Саюза, працэсы звязаныя з яго пашырэннем і ўдзел у іх моладзі гаварылі настаўнікі ліцэя Галена Ёнаш і Ян Карчэўскі. Удзельнікі сустрэчы паглядзелі новы будынак белліцэя і мелі нагоду сустрэцца з ліцэістамі.

— Моладзі з Беларусі цяжка гаварыць пра яднанне Еўропы таму, што ў іх яшчэ аб гэтым не гаварылася, а і ўвогуле аб палітыцы яны ў сябе не дыскутуюць, — кажа Вольга Сянкевіч, настаўніца белліцэя. — Апекавалася я групай з Камянца і трэба сказаць, што моладзь вельмі зычлівая і ветлівая, але ўсе вучні ўжо рускамоўныя.

Прадстаўнікі ўлад з Камянца і Свіслачы не скрывалі, што разлічваюць таксама на замацаванне гаспадарчых сувязяў. Аб вялікіх магчымасцях выкарыстання гандлёвых зносін гаварыў таксама бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, але аб канкрэтных дамовах ніхто не сказаў. Мае маладыя суразмоўцы з Беларусі выказвалі задавальненне з гасціннасці гайнаўцаў, але заўважылі, што ў будучыні добра было б наладзіць спатканні з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Высяленне пад адкрытае неба

**Высяленне асоб з кватэры, паводле закону, можа адбыцца выключна па важнай прычыне. Далей закон удакладняе, што наймальніка кватэры можна высяліць, калі той не плаціць арэнду. Аднак, калі задоўжанага наймальніка нельга забяспечыць сацыяльнай кватэрай, тады можна яго высяліць пад адкрытае неба.**

У Бельску-Падляшскім сацыяльных кватэр няма і высяленне неплацежаздольных кватарантаў з непаўналетнімі дзецьмі становіцца амаль невырашальнай справай. Як паведаміў старшыня Камісіі аховы здароўя, сацыяльнай дапамогі і сям'і Рады Бельскага павета Здзіслаў Тваркоўскі, у 1998 г. у самім Бельску праведзена было 17 высяленняў з кааператыўных і заводскіх кватэр. Сёлета павінны адбыцца 23 высяленні, у тым ліку 5 сем'яў з малымі дзецьмі. У выпадку мнагадзетных сем'яў гміна павінна забяспечыць іх сацыяльнай кватэрай. Аднак гарадскія ўлады практычна нічога не робяць, каб прыдбаць такія кватэры. Напрыклад, на 28 ліпеня планавалася высяленне сям'і з васьмі чалавек з кааператыўнай кватэры. Ранейшыя перамовы з задоўжанымі кватарантамі наконт пагашэння задоўжанасці, уключна з прапановай адрабіць доўг, закончыліся безвынікова. Гарадскі асяродак сацыяльнай дапамогі аказаў ім мінімальную падтрымку — у 1998 г. выдзеліў гэтай сям'і 1800 зл., што дае 18 зл. месячна на душу (суразмоўца прыгадаў, што косаўскія бежанцы атрымоўвалі ў нас па 1100 зл. месячна на чалавека).

— Камісію асабліва непакоіць факт, — кажа Здзіслаў Тваркоўскі, — што сям'ю з сабакам можна высяліць толькі тады, калі сабаку забяспечыцца месца ў прытулку для звяроў, а малых дзяцей з сям'ёю можна проста выкінуць на вуліцу. Камісія лічыць, што такім чынам парушаецца канстытуцыя, і выступіла ў абарону маламаёмасных, пераважна беспрацоўных людзей, паслаўшы пісьмо вярхоўным і гарадскім уладам.

Як паведаміла судовы выканаўца Раённага суда ў Бельску-Падляшскім Зофія Сяроцкая, высяленне згаданай сям'і было адтэрмінавана да часу адрамантавання старога дома ў Парцаве, які гэтая сям'я купіла.

У Бельску-Падляшскім адсутнічаюць не толькі сацыяльныя, але і камунальныя кватэры. У чарзе па астатнія чакае пад сорак сем'яў. Апошні камунальны блок з 30 кватэрамі здадзены быў у карыстанне тры гады таму, але толькі частка кватэр атрымала статус камунальных. Астатнія атрымалі патрэбныя гораду спецыялісты, перасяленцы з Ратушавага пляца, а чатыры кватэры былі прададзены, каб атрымаць сродкі на будовы чарговых камуналак.

— У даны момант у горадзе няма свабодных камунальных кватэр і не будуем іх, — сказаў віцэ-бурмістр Яўген Беразавец. — Камуналкі трапляюць назад у распараджэнне гарадскіх улад толькі тады, калі пасля смерці наймальніка сям'я яе не выкупіць.

— Цяпер у нас проста сацыяльных кватэр няма, — паведаміў бурмістр Андрэй Сцепанюк. — Праблема з цягам часу будзе ўскладняцца і будова сацыяльных кватэр за кошт горада становіцца неабходнасцю. Намерваемся будаваць такія кватэры.

* * *

Вырашэнне праблемы высяленняў патрабуе змяненняў у законах. З такой ініцыятывай павінны выступіць парламентарыі. У праекце паправак да закону аб найме жылля прапануецца абавязаць суд, каб прымаючы рашэнне аб высяленні ўказваў судоваму выканаўцу часовую кватэру. Было б гэта больш гуманнае, паколькі часовая кватэра без выгад лепшая, чым высяленне пад адкрытае неба. Цяпер падчас высялення сем'яў з малымі дзяцьмі суд стараецца змясціць малалетак у дзіцячым доме. Абазначае гэта, аднак, аддзяленне дзяцей ад бацькоў.

**Міхал Мінцэвіч**

# Восень на Палессі



*Пінская вуліца.*

[1 ☞ *працяг*]

пасёлак Моталь непадалёк Пінска. Дзякуючы намаганням старшыні мясцовага калгаса і пару энтузіястаў захавання каштоўнасці мінуўшчыны Палесся ўзнік музей, якім можа ганарыцца ўся Піншчына. Апрача экспанатаў матэрыяльнай культуры супрацоўнікі музея арганізуюць наведвальнікам паказ мясцовага фальклору. Аказваецца, што можна на гэта глядзець з вялікай прыемнасцю.

Недалёка Моталя знаходзіцца мястэчка Іванава. За дзве гадзіны можна яго абысці навокал. Іванава — прыклад суіснавання трох цывілізацыйных праслоек. У цэнтры мястэчка аграмадныя будынкі мясцовай адміністрацыі, дом культуры. Такой інфраструктурай мог бы ганарыцца нават абласны горад. Вакол гэтых цэнтраў машэраўскія шэрыя шматпавярховыя блёкі. Далей ад цэнтра — з аднаго боку стары драўляны горад, дзе большасць дамоў памятае часы Леніна, а можа нават цара Мікалая, з другога — вырастае квартал для сучасных багацееў. Вілы, можа не так шыкарныя як тыя, будаваныя вакол Беластока, сведчаць аб тым, што некаторыя ў Беларусі маюць таксама грошы. Стары квартал, у якім пражывае прыгнятаючая большасць жыхароў гарадка, нагадвае жывы скансэн. Вокны ў хатках такія маленькія, што складаецца ўражанне прабывання ў мінулым стагоддзі. Толькі тэлевізійныя антэны сведчаць пра тое, што ў дамах гэтых прысутнічае электронная тэхніка канца дваццатага стагоддзя.

З Пінска ў Гародню едзецца аўтобусам сапраўды добрымі і амаль цалкам пустымі дарогамі. Час ад часу рэйсавы аўтобус мінае нейкія старыя грузавікі, амаль цалкам не сустракаюцца легкавыя аўтамабілі. Няма бензіну. Даволі дзіўна гэта выглядае пасля невыносна перапоўненых дарог у Польшчы. У краявідзе паўночнага Палесся амаль не сустракаюцца рэчкі, ручайкі, балоты. Бальшавікі ў сваім шаленстве змагання з прыродай цалкам знішчылі мясцовую гідралагічную раўнавагу. Гэтай часткі Палесся як бы вырвалі яе душу. Нейкая яна ненатуральная, сумная. Спадчынай пасля пралетарскай улады з'яўляюцца тут таксама руіны палаца Сапегаў у Ружанах. Невядома чаму, напрыклад, камуністы не захацелі яго пераўтварыць у дом народнай творчасці, адміністрацыйны цэнтр мясцовага калгаса, дом для сірот ці нешта падобнае.

Гарады Беларусі вылучаюцца не прыгажосцю архітэктуры, а тамашніх дзяўчат. Як заўважыў мой рэдакцыйны калега, „у Беластоку ці ў Варшаве за тыдзень часу не сустрэнеш столькі статных жанчын, што ў Беларусі можаш пабачыць за адну гадзіну”. Гэты народ не заслужыў на тое, што пра яго гаворыцца і пішацца ў польскіх сродках масавай інфармацыі. У тэлерэпартажах Вальдэмара Мілевіча бачым найчасцей п'яных дэгенератаў ці жабракоў. У сапраўднасці нічога такога няма нават у глыбокай правінцыі. Жабракоў і п'яніц можна сустрэць у кожным горадзе ў свеце. Няпраўда, што беларусы хочуць таннай каўбасы і гарэлкі. Гэтага другога прадукту няма ўжо ў крамах пару тыдняў і неяк ніхто з-за гэтага не распачае. Хаця Беларусь пастаянна кампраметуе кіруючы краінай безыдэйны і безнацыянальны клан, але тыя людзі, якіх сустракаецца на вуліцах зусім з ім не атаясамліваюцца. Жывуць яны сваімі праблемамі і не хочуць нічога ведаць ні пра Лукашэнку, ні пра яго апанентаў. Ад улады чакаюць толькі аднаго: каб дазволіла спакойна жыць, працаваць і зарабляць грошы. Няпраўдай ёсць, як пішуць беластоцкія славянафілы, што дэмакратыя і лібералізм — гэта катастрофа для Беларусі. Беларускае грамадства больш гатовае да адабрэння лібералізму, чым польскае. Яно перш за ўсё патрабуе свабоды.

**Яўген Міранові**ч

# Агістарычныя вывады

Калі чытаеш псеўдагістарычны вывад Мікалая Капчука пад загалоўкам „А было гэта...” („Ніва” н-р 39), прыпамінаюцца мне вельмі раннія школьныя гады і тадышняя інтэрпрэтацыя польска-савецкіх падзей 1939 года. Паводле яе, усё было добра. Чырвоная Армія „вызваліла” беларусаў і ўкраінцаў ад прыгнёту панскай Польшчы і, калі б саветы не занялі паласіну Польшчы, то немцы небяспечна прыблізіліся б да Расіі.

Цяжка весці палеміку з агістарычнай балбатнёй Мікалая Капчука, які піша што „ў гады халоднай вайны была прыдумана тэорыя аб тым, што Чырвоная Армія 17 верасня 1939 г. усадзіла нож у спіну Польшчы”. Гэта не была тэорыя, пан Капчук, гэта была вайна. Думаю, што ўжо калі рэдакцыя „Нівы” друкуе такія вывады, то павінна, для раўнавагі поглядаў, заказаць у іншых, згуртаваных вакол Беларускага гістарычнага таварыства, гісторыкаў артыкул, які без ідэалагічнага скрыўлення, больш-менш аб'ектыўна паказаў бы чытачам „Нівы” чым была агрэсія СССР на Польшчу ў верасні 1939 г.

**Міхась Куптэль**

# Знішчэнне мовы

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

**11. Ураўноўванне моваў**

Іншым разам выціскаюць мову з ужытку, надаючы ёй роўны статус з той, якой улады рабілі найбольш спрыяючыя ўмовы існавання.

Беларусь ужо мела вопыт ураўноўвання моваў у афіцыйным ужытку. 29 жніўня 1696 г. усеагульная канферэнцыя саслоўяў або Сейм Рэчы Паспалітай Абедзвюх Нацый абвясціла, што ў справаводстве дзяржавы адной з гэтых нацый — Вялікага княства Літоўскага „цяпер усе рашэнні павінны складацца на польскай мове. Усе папярэднія акты, запісы, рашэнні і паказанні захоўваюць сваю моц”.

У гэтай і наступных за ёю дзяржаўных пастановах пра абарону беларускай мовы гаворкі няма. Больш таго, беларуская мова на працягу ўсяго XVIII ст. працягвала разам з польскай ужывацца дзе-нідзе ў справаводстве, рукапісах, асобных друкаваных выданнях. На ёй ствараліся інтэрмедыі, парадыйная паэзія і проза, казанні, песні, тлумачальныя слоўнікі і дапаможнікі.

Аб гэтым сведчаць наступныя прыклады. У пастанове Пінскай кангрэгацыі 1791 г. казалася, што настаўнікамі могуць быць толькі тыя асобы, што валодаюць польскай і беларускай мовамі, Слуцкая праваслаўная кансісторыя ў тым жа годзе загадала перакласці універсал Сейма Рэчы Паспалітай на беларускую мову.

Калі за сем гадоў да таго кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст наведаў Палессе, дык ягоную дарогу з Пінска да Крыстынопаля аздобілі надпісамі на польскай, лацінскай, беларускай і старажытнаяўрэйскай мовах.

Тым не менш, з апошняй трэці XVIII ст. польская мова трывала ўсталявалася ў школах Беларусі. Паланізацыя школ атрымала найбольшыя поспехі пры актыўнай падтрымцы царскіх улад пасля прыяднання Беларусі да Расіі. Толькі пасля тлумлення паўстання 1831 г. палітыка царызму ў дачыненні да паланізаванай беларускай шляхты рэзка змянілася. Паланізацыя скончылася. Пачалася русіфікацыя.

Што тычыцца сучасных поглядаў на ўраўноўванне моваў, якое замацавалася ў выніку рэферэндуму 14 траўня 1995 г., дык варта прывесці пэўныя доказы на ягоную карысць. Беларускі экзарх Філарэт у адным са сваіх інтэрв'ю ў 1993 годзе тлумачыў гэта такім спосабам: „Выдаленне з практыкі расійскай мовы я разумею як нешта такое, як брак павагі для расіян, якія тут жывуць. Уклад расійскай супольнасці Беларусі — як бы гэта сказаць — у арганізацыю Беларускай рэспублікі, пабудову яе эканамічнай, навуковай, культурнай базы агромны”. Калі журналіст запытаўся ва ўладыкі які варыянт быў бы найлепшы, ён атрымаў адказ: „Было б справядлівым, калі б абедзве мовы прызналі дзяржаўнымі”. Як вядома, прызнанне дзвюх моваў адбылося праз два гады пасля публікацыі гэтага інтэрв'ю.

Зразумела, справядлівым было б, калі б пры належнай дзяржаўнай увазе да расійскай мовы не меншая ўвага ўдзялялася беларускай мове, як знак павагі да мовы карэнных жыхароў краіны, якія будавалі сваю эканоміку, навуку, культуру, а таксама да 1 200 000 беларусаў, якія жывуць у Расіі. А гэта ж такая колькасць, якую налічваюць расійцы ў Беларусі.

Што датычыцца беларусаў Расійскай Федэрацыі, варта прыгадаць, што калі беларусы Пецярбурга паспрабавалі адкрыць праваслаўную царкву пры беларускім прыходзе, царкоўныя ўлады пераўтварылі гэты прыход на расійскі. У Расійскай Федэрацыі няма аніводнай дзяржаўнай беларускай школы, аніводнай дзяржаўнай беларускай бібліятэкі — нават у двух гарадах з найвялікшай колькасцю беларускага жыхарства: Маскве і Пецярбургу. Напомню, што ў Маскве і Маскоўскай вобласці жыве 130 тысяч беларусаў, а ў Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці больш за 127 тысяч беларусаў. У Карэліі, Калінінградскай вобласці і Маскоўскай вобласці беларусаў налічваецца па 11% ад агулу насельніцтва.

У Расійскай Федэрацыі няма таксама аніводнай беларускай дзяржаўнай праграмы на беларускай мове па радыё і тэлебачанні, аніводнага беларускага тэатра, аніводнай не то што кафедры, але і курсу беларусаведы, нават спецыялізацыі ў шматлікіх вышэйшых навучальных установах. І гэта апошняе — нягледзячы на шматгадовыя намаганні беларусазнаўцаў Масквы і Пецярбурга адкрыць хоць бы адзіную спецыялізацыю ва універсітэтах гэтых гарадоў. У той жа час у ВНУ сталічных гарадоў Расіі з поспехам вывучаюцца мовы і культуры шмат якіх афрыканскіх і азіяцкіх этнасаў.

Для параўнання: у дэмакратычнай Польшчы, у якой жыве ў чатыры разы менш беларусаў за Расію, пасля падзення камунізму працуюць шэсць кафедраў беларусаведы ў ВНУ пяцёх гарадоў. Туды ездзяць пецярбургскія беларусазнаўцы чытаць лекцыі або рабіць навуковыя даклады, але не чытаюць іх у ВНУ свайго горада ці іншых гарадоў Расійскай Федэрацыі.

У адрозненне ад Расіі, у якой выходзяць толькі малатыражныя газеты асобных беларускіх суполак, шматтыражныя беларускія газеты выходзяць у Польшчы, Літве, Латвіі, Украіне. У Варшаве і Беластоку, а таксама ў Таліне працуе беларускамоўнае радыёвяшчанне, у Польшчы, Літве і Латвіі працуюць беларускія школы, у Вільні ў Педагагічным інстытуце рыхтуюць беларускіх настаўнікаў.

Затое ў Расіі ўвесь час заклікаюць да дзяржаўнага аб'яднання з Беларуссю. Што можа чакаць беларускую мову і культуру ў аб'яднанай Расіі-Беларусі пры сённяшніх адносінах да іх і ў Расіі, і ў Беларусі, не цяжка прадбачыць.

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Скандал вакол „Часопіса”

У беластоцкай прэсе апошнім часам зноў шмат пісалася пра патрабаванне мясцовых палітыкаў стрымаць фінансавую падтрымку з боку Міністэрства культуры і мастацтва для штомесячніка „Часопіс”. Гэтым разам супраць датацыі для „Часопіса” выступіў пасол, маршалак Сейміка Падляшскага ваяводства Кшыштаф Юргель. Толькі цяпер прачытаў ён артыкул Сакрата Яновіча пра Армію Краёву, які друкаваўся ў сакавіку г.г. Палякі, як вядома, пра АК разважаюць толькі ў катэгорыях нацыянальнай святасці, беларусы — наадварот — маюць пра гэтую фармацыю зусім іншае ўяўленне. Гэтым апошнім ніхто яшчэ не растлумачыў, па якіх прычынах пацыфікаваны былі іх вёскі ў 1945-1947 гадах. Таму Яновічу АК ніколі не будзе тым самым, чым для Юргеля.

Калі б улады Міністэрства культуры і мастацтва станоўча адгукнуліся на патрабаванні пасла Юргеля, трэба гэта было б успрымаць як сігнал змены нацыянальнай палітыкі дзяржавы. Неўзабаве кожнаму меншаснаму часопісу можна было б даказаць нейкую палітычную злачыннасць. Надобрая была б, напрыклад, такая сітуацыя, калі б журналістам „Нівы” ставілася да выбару існаванне газеты ўзамен за панегірыкі ў адрас улады і палітычнай спадчыны, з якой яна атаясамліваецца. Раней без праблемы знайшлі людзей, якія з набожнай пашанай пісалі пра Дзяржынскага, магчыма што сёння знайшліся б такія, якія так сама пісалі б пра „Бурага”, „Лупашку” ці „Гузара”. Быў бы гэта пануры жарт гісторыі.

**(ям)**

# Блакітная рэспубліка

**7. Палонск — Ружаны**

**Ружаны. Зруйнаваны палац Сапегаў. На калоне ўязной брамы ў выглядзе трыумфальнай аркі — блакітны надпіс: *Привет из ада — Л. Сапега.***

З Дабрасельцаў едзем у Бязводнае, родную вёску Пелагеі Леўты, жонкі Васіля Захаркі. Побач магазіна сустракаем вяскоўца Леўту.

— Я замалады, каб даваенных цётак памятаць, — кажа на выгляд пяцідзесяцігадовы дзядзька.

Заходзім у магазін. Амаль усе паліцы застаўлены макаронай і кісялём. На адной — сельскагаспадарчыя прылады: серп, вілкі-сахары, каса. У буфеце — каўбаса „Раксана" і жоўты сыр, настойкі „Юркая" і „Дзятлашчанка". На прылаўку — шклянка і адкрыты слой з мініяцюрныміількамі. На ўсцеху мясцовым, якія моўчкі нам прыглядаюцца, купляем за 342 тысячы беларускіх рублёў шапкі-вушанкі.

Па дарозе ў Ружаны мінаем пасёлак Палонск. Назоў мясціны цалкам адлюстроўвае характар забудовы. Сярод ссохлага пустазелля тырчыць шарэнга шэрых дамоў з керамзіту і бетону, без дахаў і вокнаў. Карціна нагадвае месячны краявід. Як далей паказалася, Палонск прадвяшчаў нам свет ружанскіх архітэктурных атракцыёнаў і псіхічны стан жыхароў мястэчка.

Урэшце і Ружаны. У цэнтры гарадскога пасёлка прывітаў нас гул трактара. У парку, ля помніка Леніну, калектыў мясцовых аматараў выпіўкі, які нагбом распіваў пляшку гарэлкі. Выпівохі заўзята спрачаліся на беларускай мове.

Ружаны распаложаны на скрыжаванні шляхоў Слонім — Брэст і Ваўкавыск — Косава. Мястэчка налічвае да 4 тысяч жыхароў. Адзіным прадпрыемствам з'яўляецца тут мэблевая фабрыка.

Найперш наведваем Петра-Паўлаўскую царкву, помнік архітэктуры барока, пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя, па фундацыі Хрысціны Сапегі з Масальскіх. Галоўка вежы-званіцы барокавага будынка размалявана на блакітны колер, крыж — на жоўты. Побач царквы будынак Базыльянскага манастыра. Дзверы будынка-помніка рэспубліканскага значэння размаляваны блакітнай фарбай. Зараз тут паліклініка. Аглядаем царкву з сярэдзіны. Алтар храма накіраваны на захад. Відавочная уніяцкая мінуўшчына, сёння заўзята маскіраваная. Таму ў эстэтыцы інтэр'ера адчуваецца рознагалоссе. Побач арыгінальнага жывапісу, як кампазіцыя на скляпенні апсіды „Бог Саваоф" ці насценных выява св.св. Пятра і Паўла ў медальёнах, бачым сучасныя, несупадаючыя з атмасферай храма, жывапісныя творы. Вялікая разнавіднасць пануе сярод ікон, значную частку займаюць творы уніяцкага стылю.

— У нашым храме іконы з шасці цэркваў. Як за Хрушчова зачынялі навакольныя цэрквы, сюды пазносілі ўсе іконы, — паясняе свяшчэннік Мікалай Саўчук, сам родам з Драгічына, што на Беларусі.

Пачэснае месца займае цудадзейная ікона Ружанастоцкай Маці (на ўзор Чанстахоўскай Божай Маці). Бацюшка паказвае нам цудоўныя іконы св.св. Яўхіма і Анны і прападобнай Марыі Егіпецкай. Расказвае, як першая з іх сама аднаўлялася, другая пачала высочваць слёзы. Паводле айца Мікалая, гэта знак прадвяшчаючы духовае адраджэнне народа.

— Бо што зараз бацюшка ў такіх Ружанах? Толькі і патрэбны, каб новую машыну асвяціць, пахараніць памерлага, ахрысціць дзіця. *Трэбны поп і нічога болей*, — з жалем канстатуе айцец Мікалай.

Парафія жыве на сродкі вернікаў. У бацюшкі шасцёра дзяцей. Сын свяшчэнніка, хлапчук гадоў дванаццаці, прысутны ў час нашай размовы, быў басанож.

Пытаем пра парафію. Разам з жыхарамі навакольных вёсак, прыход налічвае 3 200 душ. З таго 70 працэнтаў, як адзначыў а. Мікалай, гэта *праваслаўныя атэісты*. Бываюць сем'і, дзе частка моліцца ў царкве, другая ў касцёле. На мінулым годзе ў прыходзе было 80 пахаванняў і 50 хрышчэнняў.

Пытаем пра беларускую мову ў царкве.

— Я даже и не подумал об этом, — кажа а. Мікалай, у прыватнасці, выпускнік Загорскай духоўнай акадэміі.

Прымяненне беларускай мовы ў багаслужбе наш суразмоўца лічыць палітыкай, якую вядзе мясцовы ксёндз.

— Ведь у нас никто по-белорусски не разговаривает!

Пералічваем мясціны, дзе чулі, перш за ўсё, беларускую мову.

— Это трасянка, — пярэчыць духоўны.

Пасля кароткай спрэчкі а. Мікалай дае нам перасцярогу: *Не трэба так голасна крычаць за той беларускі язык. Памаленьку. Паціхеньку. Всё гэто яшчо будзет!*



*Сінагога.*



*Фрагмент палацовага комплексу.*

Зразу, заахвочаныя свяшчэннікам, наведваем Свята-Троіцкі касцёл. Закладзены ён у пачатку XVII стагоддзя па фундацыі Льва Сапегі. Звонку храм выяўляе стыль ранняга класіцызму, у сярэдзіне — позняга рэнесансу. Проста, у другой палове XVIII стагоддзя, калі пабудаваны быў манастыр базыльянаў і Петра-Паўлаўская царква, калі быў перабудаваны палац Сапегаў, надворны архітэктар магнатаў Я. Бэкер, думаючы пра архітэктурную гармонію мястэчка, вырашыў перабудаваць таксама і касцёл. Перад будынкам інфармацыйная табліца на польскай і беларускай мовах. Храмам апякуюцца ксяндзы-місіянеры ордэна Вінцэнта а Паўльо.

— Ксёндз Януш якраз у Польшчу паехаў, — інфармуе нас дзядзька сустрэты ля ўвахода.

Звонку будынка вядзецца рамонт. Пытаем пра мову багаслужбаў.

— І па-беларуску, і па-польску, — адказвае дзядзька на чысценькай беларускай мове. — Але людзі працівяцца, што ксёндз беларускай мовай у касцёле карыстаецца, — дадае. — Па-просту мы можам сабе і на вуліцы ўволю нагаварыцца.

У голасе нашага субяседніка чуваць настальгію па Польшчы.

— Тыя, што пасля вайны ў Польшчу выехалі, выйгралі. А мы тут, *недацяпаныя*, асталіся. Думалі — бальшавікі трохі пабудуць і пойдуць сабе. Хто тады ведаў, што на паўвека яны запануюць.

Кажам, што падабаецца нам беларуская мова нашага суразмоўцы.

— Ага, — ківае галавой дзядзька, — многія мне гэтае гавораць. А што тут прыгожага такога — гэта ж наш, просты, ружанскі язык! — Нашаму субяседніку чужое паняцце беларус-каталік.

Заходзім у касцёл. Ля ўвахода распаложаная рэлігійная прэса: „Каталіцкія навіны", „Святло ўсходу", „Любите друг друга", „Rycerz Niepokalanej". На лаўках польскамоўныя кніжкі для набажэнства. Побач галоўнага алтара герб Сапегаў.

Пазней ідзем паглядзець ацалелую сінагогу XVIII стагоддзя. З Ружан родам былы прэм'ер-міністр Ізраіля Іцхак Рабін. Мураваны будынак сінагогі з чырвонай цэглы палохае сваім выглядам. На дзіравым бляшаным даху растуць бярозкі.

— Власти уже давно хотели сломать это здание, но евреи не дали, — кажа Саша, былы ваеннаслужачы.

Саша думае як еўрапеец:

— Калі б аднавіць палац і сінагогу і стварыць інфраструктуру, мястэчка з турыстыкі жыло б.

Пытаем пра сёняшні занятак эксвайскоўца. Саша красамоўна махае рукой. Зараз працуе на мэблевай фабрыцы. Разам з жонкаю, бухгалтаркай, зарабляюць дваццаць долараў.

— У нас трое дзяцей. За дзве зарплаты цяжка нават пракарміцца. А скуль на іншыя патрэбы браць грошы? — наракае жонка былога вайскоўца.

Жанчына хоча паехаць на заработак у Польшчу.

— Ці не збіраецеся вяртацца ў Расію, на радзіму?

— Навошта. Там яшчэ горш як у Ружанах. Людзі з-за беспрацоўя і голаду насмерць запіваюцца, — кажуць нашы суразмоўцы, расіяне родам з Паволжа. — Нам дэмакратыі больш далі б. Свабоды. Мы хутка на ногі сталі б! — кажа на развітанне Саша.

Далей едзем у паўночна-ўсходнім кірунку, да руін палаца. Ужо здалёк выклікаюць яны каласальнае ўражанне. Ля палацавага комплексу родавай рэзідэнцыі Сапегаў сустракаем указальнік-рэкламу мясцовай паліклінікі. Дарэмна шукаць тут якой-колечы інфармацыі пра гісторыю ці ўладнікаў палацовага ансамбля. Той, хто не баіцца скруціць сабе галаву, можа наведаць двухпавярховыя падвалы. Сёння захаваліся руіны галоўнага корпуса — рэзідэнцыі, аркады, руіны палаца мастацтваў, флігелі, брама. Самы вялікі росквіт рэзідэнцыі выпаў на другую палову XVIII стагоддзя. Дзейнічаў тут тэатр, працавалі галерэя, бібліятэка, музычна-оперная школа. Тут ставіліся пастаноўкі Жан-Жака Русо, капельмайстар К. Чыпрыяні вучыў прыгонных сялян ігры на скрыпцы. Побач будынкаў знаходзіліся парк і аранжарэя...

Сёння на парадным двары сустрэлі мы дзве казы і статак гусей.

Палац неаднойчы знішчалі ваенныя навалы. Аднак заўсёды Сапегі аднаўлялі, рэстаўрыравалі, перабудоўвалі сваё сямейнае гняздо. Апошнія шкоды нанесены ў 1944 годзе. У Ружанах з надзеяй гавораць пра сваячку Сапегаў з Канады, зацікаўленую аднаўленнем палаца. Канадская арыстакратка разлічвае на фінансавую падтрымку беларускай дзяржавы. Пакуль што ўлады не пацікавіліся яе прапановай.

* * *

Фатаграфуем руіны славутай мінуўшчыны. Ідзе дождж. Цераз уязную браму ў выглядзе трыумфальнай аркі маленькі хлопчык гоніць гусей. Па панадворку, поруч муроў палаца, тэпае бабуля. Старэча і дзіця, заганяючы гусей, гамоняць на беларускай мове.

***(працяг будзе)***

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Галіна Каржанеўская

## Песенька

Назбіраю лісцяў я
У двары,
Што зляцелі з клёніка
Без пары.
Пакладу ў кнігу іх
Між лістоў.
Хай ляжаць, аціхлыя,
Каля слоў.
Хай гаворaць-шэпчуцца
Аб вясне.
Хай складаюць песеньку
Для мяне.



I „а" клас Арлянскай гімназіі з настаўніцай Галінай Трашчотка. Фота Міхала Мінцэвіча

## Прыгожы клас

У I „а" класе Арлянскай гімназіі ніхто, хто раней вывучаў беларускую мову, не кінуў хадзіць на ўрокі гэтага прадмета. Зараз, на 17 навучэнцаў, 12 вывучае родную мову, у тым ліку 5 выпускнікоў Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных і 7 з Орлі.

— Чаму, скажыце, вывучаеце родную мову? — папытала клас настаўніца Галіна Трашчотка.

— Нам падабаецца беларуская мова, — гучным хорам заявілі гімназісты.

— А чым ваш клас мог бы пахваліцца? — працягвала настаўніца.

— Наш клас прыгожы, прыгожы! — горда адказвалі задаволеныя навучэнцы.

На ўроку гімназісты паводзілі сябе свабодна, хаця надзвычай тактоўна і сур'ёзна. Настаўніца правяла зададзеную тэму-прапанову пра народныя песні з наваколля Орлі і Дубіч-Царкоўных. Гаворка тут пра арыгінальную творчасць, пераказваную з пакалення ў пакаленне. Раней вучні I „а" класа знаёміліся з народнымі казкамі. Далей будуць спазнаваць прыказкі і прымаўкі. Наш урок прысвячаўся беларускай загадцы.

Па прапанове настаўніцы вучні раздзяліліся на тры групы. Кожная з іх мусіла выбраць сабе назву. Далей была жараб'ёўка, у выніку якой гімназісты атрымалі загадкі для рашэння. Пачалося вялікае спаборніцтва. Пасля некалькіх этапаў гульні яе вынік зраўняўся. Неўзабаве меў раздацца школьны званок, аднак вучні не хацелі выходзіць з класа. Яны прасілі настаўніцу, каб тая раздала ім чарговыя білеты з загадкамі.

* * *

Усе навучэнцы I „а" класа ахвотна чытаюць „Ніву", выпускнікі дубіцкай школы, як самі ўспомнілі, часта пісалі ў „Зорку". Разам з настаўніцай, пазней, цешыліся надрукаванымі ў прэсе допісамі.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

Максім Танк

## Чарапаха і кабан *(казка)*

Жартавалі з Чарапахі
Звяры ўсе,
Што яна хадзіць не ўмеее,
А паўзе.

А найбольш Кабан-праныра
Дакучаў:
Недарэкай і гультайкай
Называў.

Аж, нарэшце, Чарапаху
Ўзяла злосць
І лычатаму гаворыць:
— Ягамосць,

Дай мне патрэніравацца
Нейкі час
І пабачыш, хто круцейшы
Будзе з нас.

Толькі ты не падглядай
Адно — ў лаўжы
Пару месяцаў спакойна
Паляжы.

А каб ты не аслабеў,
Не пахудзеў,
Буду ежу дастаўляць табе
Штодзень.

Аж зайшоўся смехам-рогатам
Кабан.
— Добра, — кажа, —
Пажыву сабе,
Як пан...

Вось залёг ён у цяністым
Гушчары.
Чарапаха ж ад зары
І да зары

Яму носіць бульбу, бручку,
Буракі
Ды з травіцай-медуніцай
Агуркі.

— Ну ці хутка, недарэка,
Мы з табой
У абнімкі пабяжым
На вадапой?

А яна яму ў адказ:
— Ды пачакай,
Не спяшайся, куме,
Сілы набірай.

Трэба, каб ты быў
І гладак і здароў,
Вось яшчэ табе падкіну
Жалудоў.

І кабан стараўся:
Еў, і еў, і еў.
І нарэшце так ад ежы
Раздабрэў,

Што, калі агаласілі
Марафон,
Ледзь з лаўжа свайго на бруху
Выпаўз ён.

Спрабаваў ён
Чарапаху абагнаць,
Але, скочыўшы за ёю
Крокаў пяць,

Так зарыўся сваім лычам
У мурог,
Што аж сам без дапамогі
Ўстаць не змог.

Я пры гэтым быў і бачыў —
Не мана! —
Як праўчыла Чарапаха
Кабана.

## Сара з Беластока

Яшчэ ў дзіцячым садку Сара Пятрышык выступала ва ўсіх беларускіх тэатральных пастаноўках: „Калядзе", „Юр'еўскім карагодзе", „Вяселлі". Дзяўчынка з'яўляецца першай выпускніцай Самаўрадавага прадшколля н-р 14 у Беластоку.




Ужо тады Сара звярнула на сябе ўвагу — дзяўчынка прыгожа размаўляла са сваёй мамай на роднай мове. Мама Сары, Яўгенія, працуе настаўніцай польскай мовы ў ПШ н-р 12. Спадарыня Пятрышык доўгі час была рэжысёрам беларускіх пастановак у прадшколлі.

Зараз Сара вучаніца чацвёртага класа (хаця выглядае на гімназістку). Родную мову вывучае ў пазаўрочным гуртку беларускай мовы ў ПШ н-р 11. Ведае многа вершыкаў, якія ахвотна дэкламуе сябрам і сваякам.

**Зорка**
*Фота Ганны Кандрацюк*



*Прыгажуні з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Я ўжо не замаўляю (1)

***(рэпартаж)***

**Расказ Ізы**

Па дарозе шпацыруе дзесяцігадовая Іза (любіць гутарыць з незнаёмымі, аднак ужо некалькі разоў яе ўлавілі на мане).

— У гэтым доме жыве адна, у гэтым другая, і ў гэтым яшчэ адна, — кажа задаволеная, бо нехта хоча ад яе нечага даведацца.

— Разам чатыры. Не, пяць. Не, зноў памылілася, бо ў гэтым апошнім дзве шаптухі жывуць, — паказвае пальцам хату.

Іза не ўмее назваць занятку, якім займаюцца такія жанчыны. Пасля кароткага перапынку дзяўчынка дадае:

— З імі толькі адны праблемы. Калі адна такая знервавалася, то машыну аднаму дзядзьку дагары нагамі вывернула. — Іза не ўмее сказаць каму канкрэтна і навошта!

**У наваколлі ёсць такія жанчыны**

На лавачцы сядзіць мужчына. Можна было яго пабачыць тут учора і заўчора. Жыве тут, у Старыне. У мураванцы з белымі сценамі. Прынамсі даўно таму яны былі белыя — даўно ніхто іх не аднаўляў. Мужчына ахвотна размаўляе.

— Ага, ёсць у нас такія жанчыны. Калі нехта чаго патрабуе, ідзе да іх, і яны моляцца. Людзі ў іх вераць, бо дапамагаюць. Адна жыве ў нас, тут у канцы вёскі. Ну, і ў Орлі ёсць яшчэ адна. Гэтую ва ўсёй Польшчы ведаюць. Два дні таму як быў я ў Орлі, то каля яе дому за дваццаць самаходаў стаяла. З Гданьска, Варшавы...

— Ці карысталіся вы некалі дапамогай такой асобы?

— Калісьці, як малым быў, маці мяне да такой бабкі вадзіла, але не памятаю, што і як. Замалы быў. Папытай іншых у вёсцы, можна хто нешта цікавага раскажа.

**Гэта не шаптухі**

За дапамогай да знахаркі падалася калісьці пані Альжбета:

— Калі чалавек не мае сілы і нішто ўжо яму не дапамагае, хапаецца апошняга. Паехала я, яна паклала мне далоні на калена і я такую энергію адчула. Памалілася і дапамагла. У тое трэба моцна верыць. Толькі тады дапамагае.

Мая субяседніца не хоча расказваць дэталяў:

— Гэта асабістая справа. Не трэба пра такое гаварыць.

Пані Альжбета ездзіла да знахаркі са сваім мужам. У яго быў такі высокі ціск, страх падумаць, што тады магло здарыцца. Зараз яму палягчэла. Ужо не такі стомлены, як раней.

— А ці гэта нешта каштуе?

— Дзе там, — махае рукой, быццам бы адганяла камара, пані Альжбета. — Яны не бяруць грошай. Часам нехта сілком хоча ім заплаціць, бо людзі, як заплацяць, лепш сябе адчуваюць. Гэта малыя грошы. А яны і так не хочуць заплаты, бо гэта вельмі рэлігійныя людзі. Часам усе грошы ў царкву нясуць.

Калі пані Альжбета чуе слова „шаптуха”, хвалюецца:

— Не гаварыце так, гэта гучыць пагардліва. Я назвала б іх вельмі веруючымі жанчынамі. Яны толькі моляцца і нікому нічога дрэннага не робяць. Пра ніякія праклянці я не чула. Гэта мана.

**У знахаркі**

Малая карычневая хатка ў канцы вёскі. Найперш ідзецца цераз драўляную брамку. На ганку сядзіць дзядуля. Ігар, малады беларус з гэтых ваколіц, распытвае мужчыну пра яго жонку. Старэча адпраўляе нас у хату...

***(працяг будзе)***

**Аня ТАЧЫСКАЯ**
*„Inny Świat”, Старына*

Уладзімір **АРЛОЎ**

# Адкуль наш род — апавяданні па гісторыі Беларусі

**Старажытныя майстры**

Шмат хто з гараджанаў займаўся рамяством. Вучоныя-археолагі падлічылі, што ў Полацкім княстве жылі майстры амаль ста розных спецыяльнасцей.

Ганчары рабілі з гліны міскі, талеркі, збаны, кубкі і ўсякі іншы посуд. Ткачы ткалі з ільняных і ваўняных нітак тканіны. Краўцы шылі адзенне, а шаўцы — абутак. Гарбары выраблялі шкуры. Ладзейнікі будавалі тагачасныя караблі — ладдзі і стругі. Жарнасекі высякалі з цвёрдага каменю жорны, а з мяккага — вастрыльныя брускі, абразкі ды крыжыкі.

Касцярэзы выразалі з косці грабяні, гузікі і шахматныя фігуркі, бо старажытныя беларусы надта любілі гэтую гульню. Бондары майстравалі бочкі, дзежкі і цэбры. У кузнях працавалі кавалі.

Славіліся майстэрствам ювеліры. Яны забяспечвалі жанчын і дзяўчат рознымі ўпрыгожаннямі — пярсцёнкамі, бранзалетамі, каралямі. Беларусам здаўна падабалася насіць бурштынавыя пацеркі. Людзі верылі, што гэта спрыяе здароўю і дапамагае ад бяссоння.

Сёй-той, магчыма, думае, што нашы далёкія продкі хадзілі ў лапцях, але гэта не так. Абутак і ў гараджанаў, і ў вяскоўцаў быў тады скураны. Жаночыя і дзіцячыя чаравічкі вышывалі каляровымі ніткамі. Адзенне чалавека залежала ад ягонага багацця. У святочны дзень княгіня выходзіла з хорама ў вышываных золатам чаравічках і ў дзвюх, падпаясаных залатым поясам, парчовых сукенках — кароткай верхняй і доўгай ніжняй. Белую шыю песцілі шырокія каралі з каштоўных камянёў, а ў валасах ззялі на сонцы залатыя або срэбныя падвескі.

Сярод усіх майстроў князь і дружыннікі асабліва паважалі збройнікаў. Яны выкоўвалі незаменныя на вайне сякеры і мячы, прычым такія вострыя, што імі можна было галіцца. У баі воіна абараняла ад варожага ўдару кальчуга. Яе рабілі з маленькіх жалезных кольцаў. Уявіце, што часам на адну кальчугу іх патрабавалася ажно 60 тысяч.

Ішла слава пра полацкіх майстроў-лучнікаў. На блізкай адлегласці ад стралы з жалезным гартаваным наканечнікам не ратавалі ні шчыты, ні кальчуга. Нават праляцеўшы сотню крокаў, такая страла лёгка прабівала дубовую дошку таўшчынёю з палец. Лук даставаў крокаў на 300-350. З ім не толькі ваявалі, але і смела хадзілі паляваць на буйнога звера, а па дарозе маглі зрэзаць стралою гусь, качку або чаплю.

Ад назваў старажытных майстроў утварылася шмат прозвішчаў. Калі ў вас ёсць знаёмыя хлопчыкі ці дзяўчынкі з прозвішчамі Ганчар, Ганчарык ці Ганчароў, значыцца, нехта з іхніх далёкіх продкаў быў ганчаром. Няцяжка здагадацца, чым займаліся даўнія родзічы Кавалёў і Кавалёвых, Бондараў і Бондаравых, Шаўцовых, Краўцовых і Жарнасекаў.

***(працяг будзе)***

***Задача чытачу***

**Сябры! Прапануем Вашай увазе конкурс.**

Вашай задачай будзе размаляваць у выглядзе комікса гісторыю князя Усяслава Чарадзея. Самыя цікавыя малюнкі надрукуем, а аўтары атрымаюць узнагароды — каляровыя алоўкі. Усіх зацікаўленых конкурсам просім дасылаць працы на працягу трох тыдняў.

# Польска-беларуская крыжаванка № 42

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Marzenie | Rams | ▼ | Moda / Jar | ► | | | |
| ► | ▼ | | ▼ | Ranga | Sałata | | |
| Adres | ► | | | | ▼ | Ranek | Aster |
| ► | | | Mucha | Ara | ► | ▼ | ▼ |
| Jama | | Melodia | ▼ ► | | | | |
| | Mutant | ► | | | | | |
| Nieborak | | Kolonia | ► | | | | |
| ► | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 38:** Ас, сава, шарык, туман, пашана, ёрш, рад, зброд. Шар, шаша, урад, сын, паказ, матор, мёд, ар, іншы.

Узнагароды, **відэакасеты з казкай „Прыгажуня ў Сонным лесе”**, выйгралі: **Марта Кавальчук** і **Наталля Сцепанюк** з Беластока. Віншуем.

Васіль **ЖУКОВІЧ**

# Загадкі

Кветка мая — над вадой,
ліст — на вадзе самой,
корань — на дне.
Як называюць мяне?

(Гарлачык, лілея)

Красуня чырвоная
села ў травіцы,
І кожнаму хочацца
ёй пакланіцца.

(Суніца)

Вось дык хлопцы-малайцы!
На дзівосы здатны —
Без сякеры і пілы
Слаўна ўзводзяць хаты.

(Мурашкі)

# Часамі мары здзяйсняюцца...



*У рэдакцыі „Przeglądu Prawosławnego”. Рэдактар Яўген Чыквін і Дарота Высоцкая.*

**Гутарка з Яўгенам ЧЫКВІНЫМ, галоўным рэдактарам штомесячніка „Przegląd Prawosławny”, намеснікам дырэктара друкарні „Ортдрук”, дзе друкуецца і наш тыднёвік „Ніва”.**

**„Ніва”:** ***Скажыце, калі ласка, нашым чытачам, як была створана друкарня „Ортдрук”.***

**Яўген Чыквін:** Усё пачалося ад неабходнасці выдавання газеты для праваслаўных. Некаторыя не варажылі нам нічога добрага. Бацюшка Р. Сасна так і сказаў: „Жадаю вам поспеху ад усяго сэрца. Калі нешта выйдзе, я дапамагу. Хутчэй аднак у мяне на далоні вырасце кактус, чым вам дазволяць выдаваць газету”.

Першы нумар „Przeglądu Prawosławnego” выйшаў у маі 1985 года (называўся тады „Tygodnik Podlaski” і выходзіў як дадатак да „Tygodnika Polskiego”), хаця старанні ўжо працягваліся два гады.

***— Але ваша друкарня ўзнікла значна пазней?!***

— Мы друкавалі раней сваю газету ў Лодзі. Канчалася магчымасць выдавання газеты, пакольі „Tygodnik Polski”, які выдаваў ХСС, збанкрутаваў.

Што было рабіць? Мы пачалі ламаць галаву. Царква да вайны мела сваю друкарню ў Варшаве. Пасля вайны такіх умоў не было, а нам так марылася, каб выдаваць газету, ды і іншую літаратуру.

***— Калі друкарня набрала рэальных кшталтаў?***

— Недзе каля 1989 года была створана суполка з абмежаванай адказнасцю „Ортдрук”, якая мела выдаваць газету для праваслаўных са зменeным загалоўкам і літаратуру, прысвечаную багаслоўю, гісторыі, культуры, традыцыям праваслаўя. Іншая справа, што як у пачатку, так і сёння газета і іншыя выданні — яны дэфіцытныя.

***— Дык хто пакрывае страты?***

— Перш за ўсё: кансеквентна, ад самага пачатку робіць гэта Хрысціянска-грамадская асацыяцыя Казімежа Мараўскага. Трэці ўжо год Міністэрства культуры дае нам пэўную датацыю на выдаванне „Przeglądu Prawosławnego”. Ну, а на рэшту страт даход мусіць выпрацаваць сам „Ортдрук”.

***— Часта зацікаўленыя маюць да Вас прэтэнзіі, што вы ў асноўным выдаеце кніжкі па-польску. Гэта ахвота ці неабходнасць?***

— Тая рэчаіснасць, у якой мы жывем, прымушае нас да гэтага. На жаль, тое, што польскае грамадства нядобразычліва, а часам і варожа адносіцца да ўсходнеславянскіх народаў, ёсць вынікам ідэалогіі „przedmurza”, якая ў міжваенны перыяд праявілася ў фармуліроўцы: паляк — католік, пратэстант — немец, праваслаўны — рускі. Палякі ў суме не вельмі цікавяцца праваслаўем.

***— Дык для каго вы робіце газету?***

— Для тых, што ўсё ж цікавяцца намі, і для нашых людзей, асабліва маладых, якіх цяпер амаль цалкам пазбавілі магчымасці вывучаць кірыліцу. У такой сітуацыі лепш давесці да чытача інфармацыю на польскай мове. Але „Przegląd Prawosławny” мае таксама беларускія, украінскія старонкі, часамі даем матэрыялы па-руску.

***— Як пачалося ваша супрацоўніцтва з Беларуссю?***

— Як толькі паявіліся ўмовы для свабоднай дзейнасці ў карысць Царквы (у пачатку „перастройкі) мы наладзілі кантакты з узнікшым тады ў Мінску Брацтвам трох Віленскіх Мучанікаў пры Петра-Паўлаўскім саборы. Брацтва гуртавала інтэлігенцыю.

Яны пачыналі і праходзілі такую ж дарогу, якую прайшлі мы ў васьмідзесятых гадах. Мы калісьці (маю на думцы Брацтва праваслаўнай моладзі, на чале якога быў я) атрымалі дапамогу ад фінаў. Цяпер мы як бы сплачваем доўг, стараючыся дапамагаць праваслаўным беларусам.

***— Якія формы мае ваша супрацоўніцтва?***

— Перш за ўсё мы дапамагаем ім у выдавецкіх справах. Калі пачаліся нашы кантакты, то Царкве на Беларусі ставілася шмат закідаў, што яна не дбае пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Я прыйшоў да вываду, што такі стэрэатып прапаведуюць тыя, якім не вельмі ляжыць на сэрцы праваслаўе, а ў кансеквенцыі і беларускасць.

Вазьміце хоць бы Беласточчыну, дзе ад вякоў жывуць беларусы. На жаль, нацыянальную свядомасць захавалі тыя раёны, дзе жывуць беларусы праваслаўнага веравызнання. Дасканала падмацоўвае мае словы пастава жыхароў Сакольшчыны і Дуброўшчыны. Гэтыя Болькі, Фрэдкі, Гэнькі — усе між сабой гавораць па-беларуску. А спрабуй ты яму сказаць, што ён беларус! Калісь я запытаўся ў аднаго чалавека, хто яны. Беларусы? — Не! Ну, дык мо ўкраінцы або ліцвіны? — Не! Ну, дык я ж і кажу, што вы гаворыце на чысценькай беларускай мове. Калі б вы сказалі гэта ў нашай вёсцы, вас бы адтуль калом прагналі, сцвердзіў селянін.

***— Я думаю, што Вам не пашанцавала, бо здараюцца людзі значна больш інтэлігентныя. Як выглядае, аднак, ваша супрацоўніцтва з Беларуссю ў выдавецкіх справах?***

— Мы цяпер выдаем супольна квартальнік, які спачатку называўся „Праваслаўе ў Беларусі і свеце”. Цяпер яго назва: „Праваслаўе”. Матэрыялы падрыхтоўваюцца на Беларусі, а мы іх друкуем. **Гэта адзіны ў свеце паважны багаслоўскі часопіс на беларускай мове.**

***— Сёлета выдавецтва „Ортдрук” супольна з Славянскай галерэяй з Кракава атрымала Залаты грыф Браніцкіх за выданне альбома Ежы Навасельскага „Villa Dei Misteri” (рэалізацыя ўнутранага аздаблення храмаў). Гэта вялікае прызнанне для выдавецтва. Але ж вы выдаеце не толькі альбомы...***

— Мы выдаем кніжкі, каб **пашыраць сучасную багаслоўскую думку**. Такіх аўтараў, як а. Аляксандр Шмеман з Амерыкі (мы выдалі тры яго кніжкі), а. Сяргей Булгакаў („Праваслаўе”). Выдадзена таксама „Філасофія свабоды” Мікалая Бярдзяева, які быў у эміграцыі ў Парыжы, і „Ojcze nasz” француза Алівера Клемана.

Другі кірунак нашых зацікаўленняў — **паказаць нашы карэнні і сённяшні дзень праваслаўя на Беласточчыне**. Мы выдалі, напрыклад, кніжку Юрыя Лабынцава і Ларысы Шчавінскай „W mieście zwanym Zabłudowem”.

***— Якія вашы выдавецкія планы на бліжэйшую будучыню?***

— Цяпер мы рыхтуем выданне перакладу на польскую мову фундаментальнай кніжкі а. Паўла Фларэнскага „Столб и утверждение истины”. Калісь вядомы мастак і багаслоў Ежы Навасельскі з Кракава сказаў: „Польшча гэта варварская краіна. Доказам гэтага тое, што дагэтуль не перакладзена выключная праца Паўла Фларэнскага”.

Мы рыхтуем пераклад, зроблены пісьменнікам Анджэем Турчынскім, пражываючым у Слупску. У гэтай кніжцы, апрача багаслоўскіх і філасофскіх, ёсць шмат матэматычных тэрмінаў, грэка, а таксама і гебрайская мова. Яшчэ пры гэтым будзе працы. Трэба ж усё паспраўджваць.

Трэба сказаць праўду: мы стараемся выдаваць такія кніжкі, за якія сёння не бярэцца ніводнае выдавецтва.

***— Вашы мары?***

— Мы марым (і я, і дырэктар „Ортдрука” Юры Андраюк) пра выданне супольна з Мінскам альбома пра царкоўную архітэктуру Вялікага княства Літоўскага, якая была унікальнай з'явай у культуры.

Хацелі б мы выдаць „Новую зямлю” Якуба Коласа на дзвюх мовах — беларускай і польскай (польскі пераклад робіць Чэслаў Сэнюх). Спадзяемся, што гэта нам удасца, нягледзячы на кошты.

***— Дзякуем за размову і зычым поспехаў. Часамі мары здзяйсняюцца...***

**Гутарыла і фатаграфавала**
**Ада Чачуга**

З серыі: „Роўныя і раўнейшыя”

# Фонд

Што ёсць сярод жыхароў Падляшскага ваяводства „роўныя і раўнейшыя”, мы ўжо пару разоў сцвярджалі. Сцвярджэнне гэтае, аказваецца, можна аднесці да многіх галін нашага жыцця, і „раўнейшых” сярод роўных, замест меншаць, большае.

Вось узяць хаця б справу „Podlaskiej Fundacji Kształcenia Ustawicznego”, якая вынікла ў канцы жніўня на сесіі сейміка Падляшскага ваяводства. Праект пастановы наконт стварэння гэтага фонду запрапанавала радная АВС, матывуючы сваю ідэю неабходнасцю стварыць для жыхароў ваяводства варункі для павышэння кваліфікацый і паглыблення ведаў дзякуючы арганізацыі розных форм адукацыі, у тым ліку праўдзення „народных каталіцкіх універсітэтаў”. Членамі-заснавальнікамі гэтага фонду мелі б быць Беластоцкая каталіцкая епархія, Аб'яднанне каталіцкіх сямей, Беластоцкая ўправа рэгіёна „Салідарнасць” і „Салідарнасць” індывідуальных сялян.

Ну, што ж, справа добрая. Народныя каталіцкія універсітэты мелі б пашыраць сярод насельніцтва не толькі агульную адукацыю, але і веды грамадска-юрыдычныя, эканамічна-самаўрадавыя, прафесійныя і экалагічныя, а таксама ў галіне аховы здароўя. А да таго яшчэ універсітэты вучылі б культываваць народную абраднасць і ўрачыстасці ды „паглыбляць рэлігійна-маральную хрысціянскую фармацыю”.

Дык зараз жа і праваслаўным радным прыйшла ў галаву думка: во, каб і нам гэтак! Ці ж мала нас, праваслаўных на Беласточчыне! Ян Зенюк так і сказаў: Мы хочам, каб гэты фонд ахоплівалў сваім дзеяннем усіх жыхароў ваяводства, а не толькі католікаў. У Падляшскім ваяводстве ёсць дзве вялікія Царквы. Дык калі мы маем культываваць рэлігійныя абрады, то няхай тут будуць не толькі каталіцкія, але і праваслаўныя традыцыі.

І Ян Зенюк запрапанаваў, каб праваслаўная хрысціянская культура і культура беларусаў былі ўключаны ў план гэтага фонду. Ён заклікаў таксама ўнесці ў Статут фонду ў якасці членаў-заснавальнікаў Беластоцка-Гданьскую праваслаўную епархію і Праваслаўнае брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія (намеснікам старшыні якога ён з'яўляецца). Ян Зенюк зрабіў таксама прапанову, каб у выпадку, калі б яго пастулат быў адкінуты, змяніць назву фонду з „падляшскага” на „каталіцкі”. Тады мы (клуб СЛД, у тым ліку два праваслаўныя радныя), сказаў ён, падамо прапанову, каб заснаваць такі ж фонд, толькі праваслаўны.

Некаторыя радныя з АВС успрынялі гэтыя словы як пагрозу ім. Іншыя — як „wywoływanie duchów przeszłości”. Яшчэ нехта закінуў, што СЛД прабуе сеяць нацыянальны антаганізм. Былі нават прапановы, каб стварыць экуменічны фонд. Радная, якая высунула прапанову наконт стварэння фонду, тлумачылася, што на занятки каталіцкіх народных універсітэтаў можа прыйсці кожны, нават калі б ён і не быў католікам.

А ўсё ж такі ні на змену назвы фонду, ні на дапісанне праваслаўнай епархіі да ліку членаў-заснавальнікаў радныя не згадзіліся. Дарэмна старалася апазіцыя. Большасць сейміка Падляшскага ваяводства — гэта радныя з АВС. Яны ўсё прагаласавалі так, як трэба, і пададзеныя вышэй прапановы адкінулі. Дарма Ян Зенюк спасылаўся на словы папы рымскага Яна Паўла ІІ пра „kościoły siostrzane”. На нікога гэта не зрабіла ўражання.

Фонд, пра які мы гаворым, прадугледжвае адукацыю жыхароў вёскі ў рамках працэсу інтэграцыі і прыстасавання да ўмоў Еўрапейскага Саюза. Цікава, цікава, што сказаў бы той „Саюз”, пабываўшы ў нас у Беластоку.

**Ада Чачуга**

# Па слядах мінулага

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**Сураж**

*Візіта* суражскай царквы ад 1773 г. адзначыла: „Cerkiew pod tytułem S. Apostołów Piotra i Pawła i S. Męczenniczki Praksedy drewniana bruksowana, słomą kryta. Wewnątrz cerkwi pomostu nie ma, stol z tarcic po części. Okien 4. Ołtarz wielki stolarskiey roboty z obrazem Zbawiciela Pana". Тады да прыхода належалі мястэчка Сураж, вёскі Завыкі і Баранкі. У дакуменце зафіксавана таксама, што „do tey cerkwi należała wioska Doktorce dawna zwana „Paszni Chudziabin" do starostwa Strabelskiego należąca lecz za objęciem tego starostwa WJM Pan Starzyński do odmienienia obrządku z greckiego na rzymski pod karą cielesną przymusił i do kościoła Strabelskiego przyłączył roku 1768".

Да Петра-Паўлаўскай царквы належалі: пляцы пад царквой і плябаніяй, валока адна на тры змены з сенажацямі; валока *на Завыках* на тры змены — на ўчастках званых *Дамброва* і *Хадкова* ды ў самых Завыках; перададзеныя завяшчальнікамі адна валока і тры чвэрці на тры змены ды чатыры пляцы ў мястэчку, а таксама „filia w Zawykach". Сама царква „drewniana dranicami kryta z kopułką, krzyżem drewnianym (...) posadzki nie ma ani stolowania, okno wybite, drzwi bez proboju i zamka, cmentarz nie ogrodzony" патрабавала неадкладнага рамонту і таму візітатар указваў, што „cerkiew potrzebuje pokrycia, stolowania i ogrodzenia cmentarza, dzwonnica reperacji". У царкве знаходзілася напісаная на палатне цудадзейная ікона Барунскай Божай Маці са шматлікімі ахвяраваннямі („Nóżek srebrnych 2, serduszek srebrnych 3, 1 obrączka, bisiurków małych sznurków 6, bisiurków większych sznurków 5").

Філіяльная царква ў Завыках у 1773 г. была разбудавана і дзеля гэтага былі скарыстаны будаўнічы матэрыял з разабранай царквы ў Бацечках. У 1808 г. філіяльная царква рамантавалася. Належалі ёй 32 дзесяціны грунту. Пры царкве — каплічка з крыніцай. У каплічцы — ікона Уладзімірскай Божай Маці.

Чарговыя *візіты* суражскай царквы, праведзеныя да 1788 г., паўтараюць тыя ж самыя ўказанні пробашчу Рыгору Качэўскаму, але ніводнае распараджэнне не было выканана. Візітатар адзначыў: „(...) tudzież aktów wiary, nadziei, miłości i żalu przy cerkwi nie znalazłem". Мабыць, было гэта мэтанакіраванае дзеянне уніяцкага пароха, каб вернікі перайшлі на „сапраўдную веру".

У 1804 г. суражская царква належала Беластоцкаму дэканату. З мястэчка Суража ў склад прыхода ўваходзіла 7, а з вёсак Завыкі — 26 ды Баранкі — 13 дамоў. З гэтага відаць, што перыяд уніі садзейнічаў скарачэнню ліку прыхаджан усходняга абраду.

Пасля далучэння Беластоцкай акругі да Прусіі Сураж стаў каралеўскім горадам і апынуўся ва ўладанні прускага караля. У 1801 годзе жыло ў ім 210 сем'яў каталіцкага веравызнання. Ва уніяцкім прыходзе, які ўзначальваў парох Барануўскі, было 790 чалавек. У 1807 г. Сураж адышоў да Рускай імперыі.

Пасля вяртання уніятаў на ўлонне Праваслаўнай царквы храніст адзначыў, што ў Суражы „bardzo stara i biedna cerkiew, kryta słomą, wiernych nawrócono na łacińśtwo".

Паўстанне 1863 г. пакінула ў Суражы трагічныя сляды змагання з праваслаўем. Ноччу з 22 на 23 мая 1863 г. павешаны быў настаяцель праваслаўнага прыхода а. Канстанцін Пракаповіч. Пахавалі яго пры царкве ў Завыках. Пяць гадоў пазней зяць святара Іван Макавееўскі ўстанавіў на магіле помнік з надпісам: „Здесь покоится прах священника м. Суража отца Константина Прокоповича, который варварски был замучен польскими мятежниками в 1863 году 23 мая и в эту же ноч был повешен против дома на дереве тополе. Сей помник соорудил зять неоценного страдальца в 1868 году 25 мая пристав 2 участка города Гродна Иван Федорович Маковеевский". На месцы смерці а. Канстанціна Пракаповіча ў Суражы каменны помнік з іконкай св.св. Канстанціна і Галены ў срэбнай аправе паставіў а. Мікалай Весялоўскі. Надпіс на крыжы паведамляў: „На этом месте замучен польскими мятежниками настоятель Суражской церкви священник Константин Прокопович 23 мая 1863 года. Сооружен в 1901 году".



*Могільнікавая царква ў Завыках, зменена на касцёл.*

У 1867 г. у Суражы на высокім беразе ракі Нарвы была ўзведзена мураваная царква. У храме знаходзілася ікона Нерукатворнага Спаса, напісаная на дошцы, у срэбнай пазалочанай рызе, з каронай, упрыгожанай жамчужынамі. На ікона памерамі 6 х 5 вяршкоў знаходзіліся славянскія літары: ОбН. Ікона змешчана была ў ківоце з каштоўнай чырвонай драўніны. У царкве была таксама ікона Іверскай Божай Маці, напісаная на кіпарыснай дошцы доўгай на 3/4 аршына і шырокай на 10 вяршкоў. Карону на срэбнай рызе ўпрыгожвалі 38 каштоўных камянёў.

У 1863 г. да Суражскага прыхода былі далучаны Лапы, у якіх пражывала многа праваслаўнага насельніцтва ў сувязі з будовай Варшаўска-Пецярбургскай чыгуначнай лініі. Аднак ужо ў 1898 г. у Лапах была пабудавана царква і ўстаноўлены самастойны прыход.

У 1898 г. Суражскі прыход налічваў 1407 чалавек, якія пражывалі ў 9 мясцовасцях (Сураж, Баранкі, Багданкі, Дарожкі, Завыкі, Злотнікі, Кажаны, Панькі і Чараўкі). Трэба прыгадаць, што Кажанскі прыход быў ліквідаваны ў 1835 г., а паасобныя вёскі былі далучаны да Суражскага і Рыбалаўскага прыходаў. Царква ў Кажанах у 70-х гг. XIX ст. была разабрана і паўторна пабудавана ў 1886 г. Сам прыход быў адноўлены толькі ў 1905 г., а ў 1894 г. у Злотніках была ўзведзена каплічка.

У 1915 г. падчас ваенных дзеянняў царква ў Суражы была пашкоджана. У гэтым жа годзе праваслаўнае насельніцтва разам з а. Іаанам Сасноўскім падалося ў бежанства ў глыб Расіі. Прыход спыніў існаванне, а 51 гектар царкоўнай зямлі перайшоў пад казну. У 1929 г. царква была разабрана, а цэгла выкарыстана для рамонту парафіяльнага касцёла. Два царкоўныя дамы таксама сталі казённымі. На месцы царквы ў 1930 г. быў узведзены помнік для ўшанавання 10 гадавіны атрымання Польшчай незалежнасці, а на прыцаркоўным пляцы быў разбіты сквер. Могільнік у месцы, дзе раней стаяла Петра-Паўлаўская царква, паступова разбураўся.

Фактычна ўжо ў міжваенны перыяд усе сляды праваслаўя ў Суражы былі сцёрты. Пасля II сусветнай вайны толькі разбураны могільнік нагадваў аб колішнім існаванні ў мястэчку ўсходняга абраду. Магіла а. Канстанціна Пракаповіча з Завык была эксгумавана на праваслаўны могільнік на беластоцкай Выгодзе.

**(агс)**

# Гімназія без свайго будынка



*Першы паверх школьнага будынка ў Дубінах.* Фота Аляксея МАРОЗА

— У гэтым годзе хочам паставіць сцены, накрыць іх, давесці ваду і каналізацыю, атынкаваць звонку і такім чынам закончыць першы этап інвестыцыі, — так пра будову школьнага будынка ў Дубінах, у якім размесціцца гімназія і падставовая школа, расказвае войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч. — На рэалізацыю інвестыцыі прызначылі мы ў гэтым годзе 1 мільён 700 тысяч злотых сваіх сродкаў. Такую ж суму спадзяемся атрымаць ад дзяржаўнага бюджэту ў сувязі з Кантрактам для Белавежскай пушчы. Да гэтай пары мы яшчэ не атрымалі фінансавай падтрымкі ні з Куратрыі, ні з Міністэрства адукацыі.

У чатырох падставовых школах Гайнаўскай гміны — у Арэшкаве, Дубінах, Махнатым і Новым Корніне — вучыцца амаль 420 вучняў, а ў двух гімназічных класах, якія на час будовы школы размешчаны па адным у Дубінах і Арэшкаве — 41 асоба. У Арэшкаве і Новым Корніне — прыгожыя мураваныя будынкі, у Дубінах і Махнатым — старыя, драўляныя.

Будова новага будынка ў Дубінах распачалася ў чэрвені г.г. Апрача прадметных кабінетаў будуць у ім святліца, кухня са сталовай і спартыўная зала, будова якой будзе адтэрмінавана.

— Зараз цяжкія ўмовы працы ў драўляных будынках у Дубінах. Калі будзем мець дастатковую колькасць грошай, то будову закончым да верасня наступнага года, — паясняе войт Вольга Рыгаровіч. — Дадатковыя складанасці ў асвеце нашай гміны выкліканы рэформай. Стварылі мы гімназію, але не атрымалі з Міністэрства адукацыі ні *гімбуса*, ні грошай на спартыўную залу ці сталовую. Даплата дзяржбюджэту да транспарту вучняў невялікая і ў гэтым годзе будзем вымушаны далажыць каля 300 тысяч злотых з уласных сродкаў гміны.

— Апрача невялікага дадатку да зарплаты дырэктара, не атрымалі мы ніякіх сродкаў на новастворaную гімназію. Толькі 150 зл. атрымалі мы на дапамогу маламаёмным вучням у куплі падручнікаў, калі набор падручнікаў для аднаго вучня каштуе ў сярэднім 200-300 злотых. Некаторыя настаўнікі вымушаны працаваць у дзвюх або трох школах. Цяжка знайсці настаўнікаў замежных моў. Затое беларускай мове вучыцца больш за 75% вучняў, — расказвае кіраўнік абслугі школ у Гайнаўскай гміне Галіна Шыманюк.

— Грошай ледзь хапае на зарплаты для настаўнікаў, а на іншыя справы, у галоўным, выдаткоўваем сродкі з гміннага бюджэту. Вучняў падставовых школ прывозім і адвозім адзін раз, а па гімназістаў ездзім другі раз, — кажа дырэктар Гімназіі ў Дубінах і заадно дырэктар Падставовай школы ў Арэшкаве Тамара Крайнік.

— Нядаўна прыслалі нам загад з Куратрыі, каб маляваць школьныя аўтобусы на аранжавы колер. Мы ж не будзем маляваць гарадскога транспарту, які наймаем. Была я ўжо ў Міністэрстве адукацыі за *гімбусам*, а калі будзе трэба, дык і да прэм'ера паеду, паколькі наша гміна ніякага аўтобуса ніколі не атрымала, — рашуча заяўляе пра свае намеры войт Вольга Рыгаровіч. — Нашы ж школы раскінуты вакол горада і арганізаваць давоз вучняў справа намнога больш складаная, чым у суседніх гмінах.

**Аляксей Мароз**

# Файная доўгая песня

**Ой, колькі пра старое раскажа Маня Чашалёва, яна і папаткала, і папаспявала! — ужо даўно паведамлялі мне ў Меляшках.**

Пакуль я да Марыі Чашэль выбралася, то ажно пачала палохацца — раптам у Меляшках пачалі паміраць адзін за адным людзі, а часам і па двое было пакойнікаў! Адыходзяць нашы беларускія людзі, дзе тут паспееш да кожнага, каб след пакінуў і ў нас, на старонках тыднёвіка прысутнага ад дзесяцігоддзяў у нашай свядомасці!.. А паехала да яе пад восень ужо, калі сонца пачало рана хіліцца. Стала я шукаць Манінай хаты. Кажуць у вёсцы: „Ідзі, ідзі, там апошняя злева, у канцы вёскі, перад «Сэтамі»..."

Але хата замкнёная. І падворак зарослы, трава па пахі... Ці і яна?.. Я ў адну хату, другую, трэцюю — можа, да суседак выйшла? — а і там паржавелыя драты на брамках, буяе быллё на падворках, ціха, і ні курачкі, ні коціка... Урэшце заўважае мяне сіваволасая цётка са свайго падворка: „А каго ты шукаеш? Там, куды ты заходзіла, усе хаты пустыя. Пaўміралі. А яна пайшла да Каці Цываночкі ў «Сэты», яе першая хата з правага боку, там за ліпавай прысадай. Можа, і святла не паляць, пацёмку паселі..."

А як жа — сядзяць цёткі, пра сваё ўспамінаюць, перакідаюцца словам. Там сяду з імі і я, цётка Каця нагрэе на электрычнай плітцы вады на гарбату (праз тую плітку пасля амаль ёй хата не загарыцца), прынясе купленыя ў аўталаўцы свежыя пернікі... А спяваці як хочацца!

— Гэта была файная песня. Але, калі не спяваеш, то і забудзеш, —ківае галавой бабуля Маня, якой голас было калісьці чуваць на ўсю аколіцу.

Бадзёрая баба Маня, хоць здароўя ўжо не мае. „А хочацца каб паспяваць, каб штось..." Ад кастрычніка ёй пойдзе 82 год. У бежанстве ў Самары нарадзілася.

— Ёсць у нас крыху старэнькіх. Але ёсць яшчэ цікаўшыя ў гэтых лецех. Вось Марцінчанка мае 94 гады, а яшчэ цікаўша за мяне, хоць ужо згорбленая ходзіць. Ледзь ужо 20 гадоў такая. А чаму? Бяліла хату, на стол паставіла была табурэтку, і ўпала з услончыка. Выбіла клуб. Каб мяне да дохтара, казала,



а то ручніком абвяжуся, сціснуся, ляжу — не баліць, як устану, пакуль кароў, каня накармлю, напаю, сена прынясу... І так скасабурыла яе. Усё зраслося, не баліць цяпер. І так усе нашы вясковыя кабеты...

Глянь ты, колькі ў нас хатаў пустых! А вось на зіму Каця выедзе да дачкі, а я блёк у Беластоку сабе выкупіла, на Лясной Даліне. Бо стане мароз, снег. І куды?! Добра, што гэтыя тры зімы лёгкія былі, снегу не было многа. А наш „работнік" узяў ды павесіўся. А то, бывала, дроў наносіць, дай яму на папяросы, на чарку, ці 5 злотаў. Бачыце, вясной улазіў у склеп суседа, дзе той гарэлку трымае, там зашчаміўся, ні рукой, ні нагой. Так павісеў аматар чужое гарэлкі, там і акалеў. І другі наш „работнік", Эдзік, у Беластоку памёр. А то памогуць, наносяць дроў у хату, у сені на які месяц, лучыны нашчапаюць...

Чаго я ні рабіла! І ткаці, і на прутках, і кручком, і ігліцаю вязаць! І ходнікі ткала, і кругі вязала. Прадавала. Што трэба, чацвярым дзецям дала, і сабе на блёк назбірала. Эй! Ёсць у хаце работа зачата. Але не хачу больш займацца. Няма нашто, каму. Дачка прыедзе, убачыць што, сварыцца: „Нашто вяжаце! Вам жа рукі баляць! Ляжалі б!" Ужо другі тыдзень, як не раблю, і адыдзе боль. А то былі рукі панапухалі. Ад работы за ўсё жыццё. А цяпер то і рукі, і ногі, і сярэдзіна баліць.

Ужо не дам рады. Калісь на падворку то тую траву хоць сярпом абжала б! А то трошкі нагнёная — ужо сярэдзіна ные. А калісь тыя ходнікі... Дачка на Шлёнск ходнікаў 70 метраў узяла. На першую хату — бедны чалавек, то пазасцілала, кажа: „Як харашэ, мамо!" І дываны я ў файныя ўзоры ткала, перабірыстыя, і ў шэсць, і ў чатыры. Ці я каго навучыла? Калі не хочуць! Старша кажа: „Мне не трэба, я сабе куплю". Меншая, Лёлька, яна панімае, як снаваць, як што, але ткаць яна не ткала. Лёлька малая, шчэ ў школу не хадзіла, то бралася. Сяброўка на панажы, Лёлька за кроснамі. Тая наступіць на панож, а Лёлька закідае чаўнаком. Як наткалі, то як прыйшла Ганна (мая дваюрадная сястра), як пачала сварыцца! Прадзеш кудзелю, прысядзеш дзе, а ўжо малая падсядзецца, прадзе. І мне было гадоў пяць, калі мне шэсць гадоў было. Яшчэ баба Ігнатша была, яна казала: „Дай, дай, хоча — дай, хай круціць. Рабі, рабі, вучыся". І мне ўжо кудзелю ўвяжуць, і за верацяно бяруся...

А як сёння паляжу — бакі баляць. І ноччу мала ляжу, устаю, гімнастыку раблю. Пастаю, патупаю, ногі адыдуць...

Я была ўсю зіму ў дачкі. Лёлька з мужам у адным пакоі, у адной спальні — унучка, у другой — я. А мне ногі ноччу баляць, устану, іду на кухню, упруся ў стол і ў печку, і давай нагамі размахваць — раз адною, раз другою. А Аня ляжыць у спальні — слухае: стол скрыпіць, ляпнулі дзверы буфета (я брала кроплі на цукар). А пасля кажа маці: „Бабця то днём есці быццам не хоча, аднекваецца, а пасля поўначы то на кухню ідзе, наесціся. Я чула, як скрыпіць сталом!" Раз і зяць прачнуўся, падышоў, ціха стаў ля туалета, заглядвае. „Хадзі, хадзі, пагімнастыкуемся разам! Ты што, пільнуеш мяне?" — „Не, не, што вы!" І па той раз перасталі мяне папракаць. А я сяду о так, драмлю, а лягу на падушку — сну няма!

Але да здымка то я буду ў акулярах. Унучка кажа, што я ў акулярах прыгажэйшая, маршчын не відна. „Без акуляраў цябе, бабка, замуж ніхто не возьме!" Мы з Аняй больш сабе „пабрэшам", у мяне лепшы з ёю кантакт, як з дзецьмі. А праўнучка запрашае мяне пайсці з ёю пад блёк на падворак. „Я буду ў пясочку гуляць, а ты сядзеш на лаўцы. Там бабулі, двух дзядуляў сядаюць, пазнаёмлю цябе. А буду ісці дахаты, дык цябе і забяру..."

Ой, тыя песні... Кароў я з ранняя пасвіла ва ўрочышчы Яміску. Як я там заспяваю, то чуць аж на Рабінаўку. Нінка Шайнова з Забагна ў Бацюкоў пасвіла, то яна як заспявае, то я ў Ямíску чую і на Міжлеску. Нюра Ляшуцка ў Кавальскіх спявала... Панавучваліся адна ад другеі. Бывае, і сёння ўвесь дзень праспяваю, сама сабе, але не той голас, што ў цябе ў 12-13 гадоў быў! І песні старажытныя, што мне перадала папава сястра Акуліна — цётка Васіліха, беларускія, рускія, жыдоўскія, як пра Срулька, што багацеем стаў ды пра бацьку забыў... Доўгія, старыя, файныя песні...

**Запісала Міра ЛУКША**
*Фота аўтара*

# Калядавала басаножж

**Успаміны Тэклі Нікалаюк, жыхаркі Ласінкі, 1907 года нараджэння.**

Калі мне было шэсць гадоў, памёр мой тата. Памёр ад тыфу, так як і іншыя жыхары нашай вёскі, а ў іх ліку бацюшка і дзяк. Памёр таксама татаў брат з жонкаю, толькі дзеці асталіся. Было нам вельмі цяжка, яшчэ да першай сусветнай вайны згарэла нам клуня. Не было ў нас каня і мама вымушана была хадзіць на адробкі, гараваць, каб нам нехта зямлю абрабіў. У мяне былі яшчэ тры старшыя сястрычкі. Мама забірала мяне з сабою, калі ішла адрабляць, то мне гаспадары хаця есці давалі. Ужо з самага пачатку майго сіроцтва, ад шасці гадоў, я пачала працаваць у полі, спачатку памагала маме грэчку збіраць.

У бежанства з нашай вёскі паехала мала людзей. Выбіраліся і мы разам з дзядзькам, але ён нашу адзежу пабраў толькі, а нас пакінуў у Тарнопалі, што каля Семяноўкі. З тым нашым дабром заехаў у Расію да сваe сястры і там памёр, а адзежа наша прапала. Калі прыйшлі немцы, я іх вельмі баялася, бо гаварылі, што яны будуць здзекавацца, жанчынам цыцкі абрэзваць. Адзін немец пабачыў мяне, што я плачу і ўзяў мяне да сябе на рукі і даў цукерку.

Перыяд вайны мы пражылі ў Аксенцяах каля Навасад. Мамін стрыйны брат забраў нас у хату сваёй сястры, якая выехала ў Расію. Мы ў сваёй хаце не мелі чым паліць, а там хадзілі ў лес і дровы збіралі. Пражылі мы там тры гады пакуль вярнуліся з бежанства ўласнікі хаты і нам прыйшлося яе пакінуць. І мы зноў вярнуліся ў Ласінку, у кепскую хату. Сёстры мае зараблялі на дровы, а і я стала жаць ужо ў дзесяць гадоў.

Пасля вайны прысылалі дары з якогась *панства*, і чалавек раздаваў іх. І мама са мною пайшла да яго. Я вельмі плакала і ён даў мне чаравічкі. Нельга было папрасіць, бо каму схацеў, таму даваў і беднай маме не даваў, пакуль я не заплакала. А так то абувала я толькі башмачкі, якія мне мама пашыла. А лапцяў, у якіх хадзілі другія дзеці, я не мела, бо не меў хто мне іх зрабіць: у мяне не было таты. І валёнак тады ў нас не было, толькі як пачалі з Расіі вяртацца, то прывозілі. Калядавалі хадзіла басаноскж; ад хаты да хаты бягом бегла, каб не прамерзнуць. Гвязда была малая, дзед яе мне зрабіў. Басанож таксама танцавалі маладыя, калі ў каго, у каго большая хата, збіраліся ў хаце або ў сенях.

Калі я выходзіла замуж, то вяселля не было за што зрабіць; прыгатавалі толькі дзе-што. Музыкант быў абы-які, бо не было за што наняць. Маладзі не прасілі, толькі сваякоў, а з чужых адно дружка і сват. Вянчаліся ўсе, калі не ў свайго папа, то ў другога. У мужа быў воз і кабыла. Жылі мы разам з мужавымі бацькамі ды яго жанатым братам. Сем гадоў елі разам з аднае глінянае міскі дзеравянымі лыжкамі. Варылі ўсяляк. Бабку з сачэўкі ў гліняннай місцы ставілі ў печ, то на абед была такая *жэшкая*. Куццю варылі, а як карова ацеліцца, то сушылі *локшыны*. І лён вярцелі на запражку для закраскі бульбы. Мяса? Якое мяса?! Як хто багаты быў, то карміў; саланіну павесяць у каморы і па кусочку скварацъ.

Пасля пріставілі да хаты каморку і ў той каморцы жылі мы разам з мужам і тройкаю дзяцей. Абрабляла я лён: церла, трапала, прала, ткала, але шыць не шыла — шылі краўцы. Пасля другой сусветнай вайны палова нашай вёскі выехала ў Савецкі Саюз; паехаў і брат майго мужа. І мужык мой запісаўся ехаць, але я не згадзілася. Сказала, хочаш ехаць, то едзь, але я астаюся. І так мы асталіся.

**Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Матылі на выстаўцы

У Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая 45 адкрылі фатаграфічную выстаўку пад загалоўкам „Матылі Белавежскай пушчы" Мар'юша Юзвіка з Чарлянкі. Варта дадаць, што раней меў ён некалькі сваіх фотавыставак і ўсе ў Гайнаўцы.

Экспазіцыю можна глядзець кожны дзень (апрача нядзель) у гадзінах 10-18.

**(гай)**

# Паэтычная восень

У Гайнаўскім доме культуры ўжо сёмы раз арганізаваны былі Дні паэтычнай восені, у час якіх сустрэліся паэты, пераможцы VII Агульнапольскага конкурсу імя Веслава Казанэцкага. Мерапрыемства, якое адбывалася ад 1 да 3 кастрычніка г.г., распачалося дэкламацыямі паэзіі Веслава Казанэцкага ў выкананні тэатральнай групы „Імправізацыя", якая дзейнічае пры ГДК. Пасля былі літаратурныя варштаты для маладых паэтаў і знаёмства з паэзіяй літаратурнай групы „Гайнаўка". Адбылася таксама аўтарская сустрэча з вядомым паэтам Эрнестам Брылем. Мерапрыемства закончылася канцэртам Крыстыны Пронька. У Агульнапольскім паэтычным конкурсе, у якім удзельнічала 76 аўтараў, перамагла Барбара Хіліцкая з Плоцка.

**(ам-з)**

# Фінансавая дыскрымінацыя

Сёлета ўдзельнічаў я ў VII Міжнароднай канферэнцыі „Дарога да ўзаемнасці", прысвечанай польска-беларускім моўным, літаратурным, гістарычным і культурным сувязям. Яе арганізатарамі выступілі Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Факультэт беларусістыкі Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку, а патранат над мерапрыемствам трымаў рэктар Універсітэта праф. Адам Ямруз. Канферэнцыя, у якой удзельнічалі навукоўцы з Польшчы і Беларусі, паказала многа белых плям у польска-беларускіх дачыненнях і пацвердзіла неабходнасць такіх навуковых мерапрыемстваў у будучым.

Аднак з прыкрасцю прыходзіцца мне заўважыць, што так важная міжнародная канферэнцыя ў Падляшскім ваяводстве — на сутыку розных культур, моў і рэлігій — не карысталася фінансавай падтрымкай ваяводскіх улад. Канферэнцыя адбылася дзякуючы дапамозе спонсараў і сціплых міністэрскіх датацый. На маю думку, гэта праява абыякавасці ваяводскіх уладароў да ўсяго, што няпольскае, дыскрымінацыя здабыткаў беларускай нацыянальнай меншасці. У гэтым выпадку важныя не дэкларацыі на словах, але практычныя, фінансавыя, дзеянні. Прыгадаю, што летась такая ж канферэнцыя ў Гродне адбылася за кошт абласнога бюджэту.

А вось іншы прыклад няўвагі да беларускай культуры. Канферэнцыя традыцыйна канчаецца мастацкімі сустрэчамі, арганізаванымі БГКТ і Саюзам палякаў Беларусі. 18 ліпеня г.г. у беластоцкім амфітэатры сустрэліся польскія калектывы з Гродзеншчыны і беларускія з Беласточчыны. Канцэрт адбыўся дзякуючы спонсарам — страхавым фірмам „Поліса" і „Гэрос" — ды сімвалічнай датацыі Гарадской управы ў Беластоку. Аднак Ваяводская ўправа не падумала ўспамагчы гэтае мерапрыемства, хаця служыць яно прыбліжэнню двух суседніх народаў.

Прыкра было, што ў абодвух мерапрыемствах не прысутнічаў прадстаўнік улад Саюза палякаў Беларусі. Мне здаецца, што СПБ не залежыць на супрацоўніцтве з БГКТ, узаемаразуменні, што гэта праява абыякавасці да беларускай меншасці ў Польшчы. Ці такім чынам пераймаюць яны стаўленне нашых улад? Нягледзячы на гэта польскія калектывы прыбылі ў Беласток дзякуючы дапамозе Гродзенскага аблвыканкама.

У мінулым годзе беларускія калектывы з Беласточчыны гродзенскія ўлады віталі хлебам і соллю. Сёлета нашы ваяводскія ўлады не падумалі прывітаць сваіх суродзічаў з-за мяжы. Мабыць, гродзенскія палякі падумаюць, што мерапрыемствы, якія служаць прыбліжэнню народаў, не падабаюцца нашай ваяводскай вярхушцы.

На прыведзеных мною прыкладах відаць, як парушаецца права нацыянальных і рэлігійных меншасцей на развіццё сваёй культуры. На маю думку, павінна адбыцца сустрэча ваяводскіх улад з прадстаўнікамі меншасных арганізацый пры ўдзеле адпаведнай парламенцкай камісіі і Хельсінскага камітэта. Тлумачэнні пра недахоп фінансавых сродкаў мяне не пераконваюць. Калі Польшча лічыць сябе свабоднай і дэмакратычнай краінай, павінна гарантаваць выкананне правоў нацыянальных меншасцей так, як гэта робіцца на Захадзе.

**Канстанцін Масальскі**

# Замест блёка — сметнік



Яшчэ ў 80-х гадах у Арлянскай гміне было многа маладых сем'яў, якім патрэбна было сваё жыллё. І менавіта тады нехта з радных прыдумаў пабудаваць у Орлі жылы блёк для маладых сужонстваў.

У пачатку 90-х гадоў пры Гміннай управе паўстаў Жыллёвы кааператыў. З ліку работнікаў гміннай адміністрацыі былі выбраны ўлады кааператыва (старшыня — Міраслаў Бало, намеснік старшыні — Мікалай Здановіч, скарбнік — Барбара Савіцкая), адкрыты рахунак у банку ПКО ў Бельску-Падляшскім. Неўзабаве ў кааператыў запісалася каля 20 чалавек, якім пасля заключэння дамовы трэба было на працягу 7 дзён уплаціць у якасці ўступнага ўзносу тадышняе 13 мільёнаў злотых. Кіраўніцтва кааператыва абяцала сваім членам хуткае ўзвядзенне жылога блёка па вуліцы Бельскай. Вестка маланкава разышлася па ўсёй гміне. Марыя Прызовіч са Шчытоў-Навадвораў таксама вырашыла забяспечыць кватэрай сваіх дзяцей.

— Уплаціла я першую рату восенню 1990 года — 5 млн., а вясною наступнага года чарговыя 7 млн. зл. Ашчаднасцей у мяне не было, дык трэба было прадаць тры бычкі. Гаварылі нам яшчэ, што кааператыў атрымае ў банку крэдыт і неўзабаве пачнецца будова.

Маладыя людзі цешыліся, але ніхто з іх не спадзяваўся, што не прыйдзецца ім спраўляць наваселля і што на дадатак страцяць уплачаныя грошы. Час няўмольна ішоў, а будова, засеўшы ў катлаване, не магла выйсці на паверхню. Калі прайшлі ўсе тэрміны і стала ясным, што блёка ў Орлі не будзе, разжаленая жанчына пачала высвятляць справу.

— Два гады таму паехала я да старшыні кааператыва, а той мне заявіў, што трэба будзе склікаць агульны сход членаў. Сабралася нас 16 чалавек. Старшыня абяцаў, што паедзе ў Беласток, каб суд аб'явіў неплацежаздольнасць кааператыва і тады можа хтосьці купіць пляц. Потым аказалася, што гэта немагчымае, бо для разбору справы аб банкруцтве таксама патрэбны грошы. Тады члены кааператыва сталі патрабаваць вярнуць ім грошы, але выявілася, што на банкаўскім рахунку грошай няма. Старшыня кааператыва не хацеў мне паказаць фінансавых дакументаў.

Дзесяць гадоў прайшло, а ў месцы блёка віднее засмечаны катлаван з рэшткамі фундаментаў, парослы пустазеллем, з-пад якога тырчаць драты (глядзі здымак). Адзін з былых членаў кааператыва, жыхар Шлёнска, падаў кааператыў у суд. Выйграў ён справу, але грошай да гэтай пары ніхто яму не вярнуў. Калі хацеў я пагутарыць са старшынёю кааператыва, той мне адказаў: „Мне неабавязкова з табой размаўляць, а людзі хай гавораць, што хочуць".

— Мне здаецца, што грошы нам павінны вярнуць, — кажа Марыя Прызовіч. — Як можна было змарнаваць столькі нашых грошай? А ў гміне яшчэ палохаюць, што прыйдзецца нам плаціць падатак за пляц, на якім меў стаяць блёк...

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне даволі цяжкі сон. Быццам мы прыехалі да сваякоў на вяселле. Яны жывуць у іншым горадзе. Прыязджаем, а мой муж гаворыць: „На вяселле мы не пойдзем!" Я кажу: „Што? То ты не мог мне гэтага раней сказаць?! Я ж бы ім падарунак выслала і не трэба было б ехаць". Бачу я, што па панадворку ходзяць яшчэ людзі, але малады ўжо, відаць, паехаў па маладую.

Мы зайшлі ў вясельны дом. Трэба было б даць мужыку паесці, а гаспадароў няма. Гляджу, на стале засталіся нейкія рэшткі яды і нават палавіна торта. Даю яму яду. Нешта мы не спяшаемся дахаты, хаця на вяселле быццам бы і не ідзем. Муж наеўся, з таго торта застаўся вузенькі кавалак, які, здаецца, вось-вось упадзе.

Я таксама хачу есці. Што ўзяць? Пэўна, пакінулі нешта ў хаце, не ўсё забралі туды, у тую залу, дзе мае адбывацца вяселле. Заглядаю ў халадзільнік, а там усяго поўна. Усё, аднак, нейкае нядобрае. Нешта расплылося. Нейкая маса (печаная) яшчэ цёплая, нельга гэтага есці. Ага, бачу нейкі прыгожы пірог, заліты жэле. Прыглядаюся, а гэта ж вельмі тлусты бачок, падрыхтаваны, быццам пірог. Есці хочацца, а з'есці няма чаго, хаця яды шмат.

І пасля ўжо мы з мужам ляжым у пасцелі (ужо і нанач тут засталіся), па хаце ходзяць гаспадары, а я смяюся і кажу ім: „Гляньце, які ён (пра майго мужа), каб прынамсі сказаў, што ён не пойдзе на вяселле, а то кажа, што мы не пойдзем. Зусім, як яго брат гаворыць — за сябе і за жонку!" Я так сказала і — стук яго (вядома, жартам) у бок.

Не ведаю, Астроне, ці гэты сон мне сніўся таму, што я вельмі позна ела вячэру і была яна вельмі сытная. Але ж тады мяне павінна было б адварочваць ад яды, а мне ўсё хацелася есці. Калі я прачнулася, у страўніку было цяжка, быццам камень на ім ляжаў. Што ты, Астроне, думаеш пра гэты сон?

**Анэта**

Анэта! Несумненна, у нейкай ступені сон быў выкліканы фактам, што ты аб'елася нанач. Перад сном наядацца нельга. Тады могуць прысніцца яшчэ не такія кашмары.

Але наогул вяселле прадвяшчае няўхільную сварку. Хаця вы на ім не гулялі, то ўсё роўна на яго прыехалі. Ды і тое мноства яды, а яшчэ ж непаўнавартаснай, прадвяшчае сумную падзею, можа нават хваробу ці пахаванне. Пра крыўду гаварыла б і тое, што ты стукнула мужа, калі б не быў гэта жарт.

**Астрон**

# Ваўкі ўчынілі шкоду

У нашай вёсцы ў трох сялян-пенсіянераў ваўкі разарвалі цялушкі. Пакрыўджаныя гаспадары патрабуюць ад улад кампенсацыі за ўчыненую ваўкамі шкоду. Аднак, каб атрымаць кампенсацыю, раней жывёлу трэба было застрахаваць. Пра гэта сяляне не падумалі і пакідалі жывёлу нанач у полі на волю лёсу, а дакладней кажучы, на з'ядзенне ваўкам. Добрыя гаспадары не пакідаюць жывёлу без нагляду і потым не маюць праблем з хадайніцтвам аб неналежнай кампенсацыі.

**Дзядзька Захар**



Ніва — тыднёвік беларусаў у Польшчы

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 2000 r. upływa 5 grudnia 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 19,50 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 39,45; pocztą lotniczą Europa — 48,05; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 65,05. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,60 zł, a kwartalnie — 33,80 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Галерэя „Ніўкі”

«Еўрасаюз, як ты мне мілы…»

Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Пра няўдачы

Жыхар Егіпта Махамет Ібрагім Махфуз аб'явіў сябе богам і прарокам. Ён пераконваў, што ліхвярства ў яго краіне з'яўляецца законнай прафесіяй, дазваляў маліцца заміж пяці толькі два разы ў суткі і спаў з жонкамі сваіх вернікаў. На вялікі жаль суд не паверыў прароку і прыгаварыў яго да пяці гадоў катаргі за ... абразу рэлігіі.

Жыхар Сіцыліі Анджэла (!) Меланіна таксама шукаў шчасця блізу святасці. Перапрануўшыся святаром ён наведваў багацеяў і прыкідваўся, што збірае грошы беднякам. Справа ішла паспяхова, бо сабраў ён некалькі сот тысяч долараў і калі б не спатыкнуўся...

Але ж бывае і шчасце ў няшчасці. Жыхара Канады, прыгаворанага да турэмнага зняволення, трэба было адпусціць назад на свабоду. Прыгавораныважыў 205 кілаграмаў і ў турме не знайшоўся ложак, які мог бы вытрымаць такое пакаранне.

Брытанец Майк Расел восем гадоў таму страціў зубны пратэз у дарожным выпадку. Выпадак быў сур'ёзны, бо ў яго выніку Майк стаў цярпець ад задышкі. Урачы дакладна прасветлілі рэнтгенаўскім апаратам ягонае горла і прыйшлі да вываду, што ён захварэў астмай ды сталі лячыць яго антыбіётыкамі і інгаляцыяй. Нядаўна заглянулі яны ў горла ящчэ мікракамерай і толькі цяпер пабачылі, што там няма ніякай астмы, толькі яго ўласны зубны пратэз.

Жыхар Ірака Крэйдзі Мухамед ужо шаснаццаць разоў склікаў гасцей на сваё вяселле. І заўсёды дарэмна, бо заўжды нешта перашкаджала ажаніцца, напр. дзядзька нявесткі ў апошнюю хвіліну загадаў, каб яна выйшла за іншага...

Жыхар заходняй Сербіі выехаў на заробкі ў Італію. Калі вярнуўся на радзіму ў водпуск, на месцы свайго дома ўбачыў толькі чыстае поле. Яго мураваны дом плошчаю ў 120 квадратных метраў прапаў без следу разам з мэбляй, пасудай, свіранам і падвалам. Ніхто з суседзяў не бачыў, як і калі гэта сталася.

Жыхару Ірана Карыму Насеру Мірану падчас пабыўкі ў Заходняй Еўропе прапалі дакументы і ён не мог пакінуць тэрыторыі парыжскага аэрадрома, пакуль яму не аформілі новых. Іранскія чыноўнікі спраўляліся з гэтай справай адзінаццаць гадоў.

33-гадовы брытанскі аўтамеханік выбраўся ў водпуск у Турцыю разам з жонкаю і дачкою. У лонданскім аэрапорце дачка зламала руку і ўрач забараніў ёй ляцець. Тады бацькі пасадзілі яе на таксі і адправілі самую ў шпіталь, а самі паляцелі загарацъ.

А іншы брытанец Люк Уільямс выбраўся на адпачынак у Кенію. У першы дзень у Найробі яго аграбілі. Пасля, у Мамбасе, на пляжы ён наступіў на марскога вожыка і папаў у шпіталь. Выйшаўшы са шпіталя ён усё ж такі рашыў загарэць, але яму ўкралі крэм ад загарання і ён апёкся на сонцы. Тады ён схаваўся ад сонца ў заапарк, а там яго баднула жырафа.

Брытанскі сабака Лакі, праваднік невідушчых, свайго першага гаспадара падвёў прама пад разагнаны аўтобус. Другога гаспадара завёў у мора, дзе той і ўтапіўся. Трэцяга гаспадара сцягнуў з высокага перона, а чацвёртага завалок на вуліцу поўную самаходаў.

А ў каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.

**Адам МАНЬЯК**

Фрашкі пра нашых

## *Ратуй, Марыся, дэмаграфію!*

Калі Марыя Ф. у свой век вяла
**„Сардэчныя”** ў нас **„тайны”** (гэта ж прэгісторыя!),
Дык йшлі лісты ў „Ніву” з кожнага сяла,
З кожнага прыхода — з усёй тэрыторыі
Усходняе Сцяны. І вынікі былі,
З-за тых парад, прыстойных і талковых,
І дзеткі потым у вёсках табуном раслі
І йшоў з прагрэсам наш народ вясковы.
А кінула Марыся прэч пісаць
І перапісваць узялася ўсё чужое,
Упала дэмаграфія!!! Ці пачуцці ўжо спяць?!
Ці рубрыку Марысі даць для бою?
Няхай чытач падкажа, будзе так,
Як думка нам грамадская параіць.
А, можа, Ада Ч. падсоліць шчэ у смак
І штосьці з Маняй зноў прыдумаюць для краю?..

**Вандал АРЛЯНСКІ**




Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. сутаргавы выдых з хрыпам і шумам, 7. займаецца вінакурэннем, 8. край булкі свежага хлеба, 9. густы едкі дым ад тлення без полымя, 10. левы прыток Енісея, 14. афіцыйна зацверджаны ўзровень кваліфікацыі ў спорце, 18. Джосія, англійскі керамік (1730-95), 19. суайчыннік, 20. спадарожнік планеты, 21. невялікі луг сярод лесу.

**Вертыкальна:** 1. бацька мужа, 2. кныр, 3. японская мафія, 4. магазін, лаўка, 5. марское судна з касымі парусамі, 6. сталіца Тыбета, 11. гора, бедства, 12. самаробны драўляны пратэз для нагі, 13. нуда, 15. надрэўны паразіт з белымі ягадамі, 16. узараная глеба, 17. Мар'ян, беларускі паэт (нар. у 1943 г.).

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 36 нумара**

**Гарызантальна:** мякаць, андантэ, раніца, грымоты, ятаган, славак, абрыкос, кампот, Арысаба, карсар.

**Вертыкальна:** калгас, адрына, Анкона, мэрыя, Конга, цыцка, Турцыя, гектар, Нестар, Луара, выпас, катар.

Рашэнне: **Янка Крупа.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яўгену Барэлю** з Ваўкавыска і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# *„Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка*

Гутараць два сябры:
— Што ты выразваеш з газеты?
— Інфармацыю пра тое, як муж замардаваў сваю жонку за тое, што шнырыла па яго кішэнях.
— І што хочаш зрабіць з гэтым выразкам?
— Схаваць у кішэню.

* * *

— Як рассмяшыць бландзінку ў суботу?
— Расказаць ёй анекдот у сераду.

* * *

— Што можаце сказаць пра трыццацігадовую вайну? — пытае прафесар студэнта.
— Ну... — пасля хвіліны роздумаў адказвае студэнт, — яна працягвалася трыццаць гадоў.
— Гэта крыху замала, — ацэньвае выкладчык.
— Трыццаць гадоў вайны, гэта вам мала!?

* * *

— Ці чалавек можа есці ўсе грыбы?
— Можа; аднак некаторыя толькі адзін раз.

* * *

Настаўнік злавіў на вудачку маленькага вугарка. Зняў яго далікатна з кручка і выпусціў на ваду:
— Заўтра прыплыві да мяне з бацькам!

* * *

— Ці вы замужняя? — пытае лекар пацыентку.
— Не.
— А маеце сябра?
— Таксама не.
— У вас будзе дзіця...
— Гэта магчыма: на працы маю кіраўніка.